УДК 002.2
ББК 76.113(4 Беі) П 99

У даследаванні прасочваецца гісторыя рукапіснай і друкаванай кнігі, выдавецкай справы, перыёдыкі ў гродзенскім рэгіёне ад XIII да пачатку XX стагоддзя.

Інфармацыя будзе карыснай для краязнаўцаў, гісторыкаў культуры і ўсіх, хто цікавіцца духоўнай спадчынай Гродзеншчыны.

Рэцэнзентам працы выступіў кандыдат культуралогіі, дацэнт кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Трацяк Іван Іванавіч.

Fundacja Instytut na rzecz Demokracji w Europie Wschodniej (IDEE) jest polską niezależną fundacją nie nastawioną na zysk. Od 1991 roku pracujemy na rzecz rozwoju społeczeństwa obywatelskiego i ożywienia kontaktów między ludźmi działającymi w organizacjach pozarządowych oraz niezależnymi dziennikarzami z krajów Europy Środkowej i Wschodniej.

IDEE przyczynia się do tworzenia trwałych więzów i sieci kontaktów wewnątrz państw Europy Środkowej i Wschodniej i ponad ich granicami, między ludźmi różnych poglądów, których łączy przekonanie, że tylko instytucje i media niezależne od kontroli władz mogą budować demokratyczne, obywatelskie społeczeństwo. Wydanie tej książki jest kolejnym przykładem takiej pomocy niezależnym autoram na Białorusi.

druk własny nakład 100 egz.

Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч прафесар кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Нарадзіўся ў 1931 г. у мяст. Новы Свержан Стаўбцоўскага р-на. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

З 1957 года працуе ў Гродзенскім педінстытуце (універсітэце). Загадчык кафедры беларускай літаратуры ў 1968-74 г. Загадчык кафедры беларускай культуры ў 1991-2001 г.

Сааўтар даследаванняў Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т.2" (1969), Гісторыя беларускай літаратуры. XIX пачатак XX ст." (1981, 2-е выд. у 1998).

Выдаў кнігі "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар. Аб прозе К.Чорнага" (1981), "Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі" (1996), "Людзі культуры з Гродзеншчыны. Даведнік" (2000).

## З СЯРЭДНЯВЕЧЧА

Кніга, найперш рукапісная, была вельмі значнай часткай духоўнай культуры і ў Полацкай зямлі, і ў Вялікім княстве Літоўскім. Развіццё хрысціянства, затым рэнесансныя працэсы дыктавалі вялікі аб'ём кніжнай прадукцыі, таксама высокі тэхнічны і мастацкі яе ўзровень. Аднак лёс кнігі, як рукапіснай, так і друкаванай, быў вельмі драматычны ў краі, дзе сутыкаліся інтарэсы ўсходніх і заходніх суседзяў. Тым больш гэта датычыць гродзенскага рэгіёну, у якім рэлігійна-палітычная барацьба была асабліва напружанай і вострай. У XVII-XVIII стст. езуіты публічна знішчалі кнігі праваслаўнай арыентацыі. Пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі праваслаўная царква, дбаючы пра «чысціню веры», у сваю чаргу, сурова рэвізавала мясцовыя кнігазборы, канфіскоўвала бібліятэкі ўніяцкіх і каталіцкіх кляштараў. У выніку мноства кніг загінула або трапіла ў бібліятэкі, прыватныя зборы Пецярбурга, Масквы, Архангельска, Ноўгарада, Самары, Саратава, Львова, Кракава. Шмат іх было сабрана і ў Вільні, дзе ў 1856 г. заснаваны Я. Тышкевічам музей старажытнасцяў (у справаздачы музея за 1865 год названа толькі рукапісных кніг 538 адзінак).

Рукапісныя кнігі, асабліва самыя даўнія, як правіла, пазбаўлены нейкіх «выходных дадзеных». Прыпіска ж пісца ці зробленая пазней чытачом або ўладальнікам кнігі сведчыць пра творчую смеласць прыпісчыка, яго адносіны да кнігі як з'явы добра знаёмай, прывычнай. Таму першая зарэгістраваная з тэрыторыі Гродзеншчыны кніга, якая датуецца 1241 годам і мае прыпіску з выхадам на канкрэтную мясціну (Любча Навагрудскага р-на), гаворыць, што ўжо ў тыя часы кнігапісанне ў рэгіёне не было навіною. Маецца тут на ўвазе рукапіс, зафіксаваны В. Ластоўскім[1], «Написанія Афанасія мниха к Панкови о древе добру и злу и о наузех и о стреле громней», выкананы ўставам на пергаменце «рукою многогрешного дьяка Никиты з Любъчи». Захоўваўся ў бібліятэцы Хрантовічаў у Шчорсах (Навагрудскі р-н).

Другім датаваным рэгіянальным рукапісам трэба лічыць Лаўрышаўскае евангелле, створанае ў Лаўрышаўскім кляштары. Ён быў заснаваны ў 1262 г. навагрудскім князем Войшалкам і стаў буйным цэнтрам грамадскага і культурнага жыцця краю. Знаходзячыся паблізу Навагрудка, які ў пачатку XIV ст. набыў «літоўскую» метраполію, кляштар стараўся мацаваць мясцовую ўладу, усяляк падтрымліваў аўтарытэт навагрудскіх земляў. Некаторыя даследчыкі

[1] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, с. 78.

(У.Пашута[1], М.Ермаловіч[2]) звязваюць з гэтым асяродкам духоўнай культуры пачаткі беларускага летапісання. У XIV-XV ст. вялікія князі спецыяльнымі граматамі, пісанымі ў Лаўрышаве, надаюць кляштару зямельныя ўладанні. Пра ўклады на адрас Лаўрышаўскага кляштара рухомай і нерухомай маёмасці (дваровых людзей, земляў, збожжа, грошай) сведчаць запісы, зробленыя ў XIV-XVI ст. на старонках евангелля. Усяго выканана 14 такіх запісаў. Напрыклад: «Се іаз князь Алексанъдро Володимирович и своию княгинею московъкою и своими детьми дал есмь десятину святе богородици оу Лаврошев монастырь ис турця[3] у векии.[4] Яшчэ запіс пазнейшага часу: «се азъ Панко Обуховичъ Тивуна Негневицкого[5] сынъ погадавши есми съ своею братиею съ Тивуном Негневицким гринемъ а съ братомъ своимъ Михаиломъ и съ детьми своими съ Семеномъ а съ Панкомъ записалъ есми сеножати две около нивы нашея»[6]. Яшчэ запіс 1486 года: «Се я пан Іван Олександровичъ Стретовичъ Подскарбий Господаря Великого Короля Казимира записалъ есми с своего именья с березовця[7] тридцать копъ жита»[8].

Лаўрышаўскае евангелле датуюць 1329 годам (П.Уладзіміраў,[9] Я.Карскі[10] і інш). Некаторыя даследчыкі лічаць, што час напісання вызначаецца менш пэўна. Кніга напісана уставам на пергаменце царкоўна-славянскаю моваю. Тэкст, які змяшчае 4 евангельскія кнігі, мае 374 нумараваныя старонкі па 2 калонкі кожная. Укладныя запісы перамяжоўваюцца ўстаўкамі на старабеларускай мове і маюць сціслыя каментары XVI-XVII ст. на беларускай і польскай мовах. Рукапіс аздоблены застаўкамі і ініцыяламі ў тэраталагічным стылі, 19-цю мініяцюрамі, сярод якіх складаныя шматфігурныя кампазіцыі, 7 з іх на ўсю плошчу старонкі. Дошкі пераплёту абцягнуты аксамітам. На верхняй вокладцы 4 накутнікі з бірузой. Іх краі, звернутыя да цэнтра, аформлены карункавым арнаментам. У сярэдніку выява святога з дзідаю і шчытом увасабляе вобраз князя Войшалка. На ніжняй вокладцы пазалочаны крыж-распяцце. У 1887 г. евангелле было рэстаўравана.

---

[1] Пашуто В. Т. Образование Литовского государства. М. , 1959, с. 38-42.
[2] Ермаловіч М. Беларускія летапісы і іх лёс // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1970, №4, с. 33.
[3] Мястэчка Турэц — у Карэліцкім р-не.
[4] Востоков А. Описание русских и словенских рукописей Румянцовского музеума. СПб, 1842, с. 126.
[5] Мястэчка Нягневічы — у Навагрудскім р-не.
[6] Востоков А. Указ. соч. , с. 126.
[7] Веска Бярозавец — у Навагрудскім р-не.
[8] Владимиров П. В. Обзор южно-русских и западно-русских памятников письменности от XI до XVII ст. Киев, 1890, с. 16.
[9] Востоков А. Указ. соч. , с. 126.
[10] Карский Е.Ф. К вопросу о разработке старого западно-русского наречия. Вильна, 1893, с. 26.

Да XIV ст. адносіцца і Жухавіцкае евангелле, якое захоўвалася да першай сусветнай вайны ў царкве ў вёсцы Вялікія Жухавічы (Карэліцкі р-н), затым у Беларускім музеі імя І.Луцкевіча ў Вільні.[1] У евангеллі ёсць мініяцюры ўсіх чатырох евангелістаў і застаукі, якімі адкрываецца кожная частка кнігі.

У XIV ст. пачынаецца пісанне ў Беларусі яўрэйскіх кніг. Найбольш папулярнай сярод іх была Тора, якая перапісвалася на пергаменце. Значным цэнтрам яўрэйскага кнігапісання і асветы было на Гродзеншчыне мястэчка Мір (Карэліцкі р-н), дзе працаваў вядомы ешыбот.[2]

Шырокі размах набывае кнігапісанне ў XV-XVI ст.ст. у сувязі з агульным уздымам культурнага жыцця, росквітам асветы ў рэгіёне і інтэнсіўнай духоўнай дзейнасцю розных канфесій той эпохі. Адным з цэнтраў пісьмовай культуры становіцца Жыровіцкі кляштар, пабудаваны ў сярэдзіне XVI ст. праваслаўнымі Солтанамі і перададзены пазней базыльянам. Тут фарміруецца багаты кнігазбор, які з цягам часу стаў адным з самых буйных не толькі на Гродзеншчыне, а і ў Беларусі ў цэлым. Натуральна, што тут ствараецца шмат рукапісных кніг, многія ж набываюць жыровіцкую «прапіску», хаця з'яўляліся на свет трохі раней, чым пабудаваўся кляштар. Гэта датычыць найбольш жыційна-навучальнай літаратуры, якая адрасавалася шырокаму чытачу і цесна спалучала ў мове стараславянскія і старабеларускія асаблівасці. Сярод такіх рукапісаў «Словы Грыгорыя Багаслова», «Павучанні Ісаака Сірына», «Павучанні Кірылы Ерусалімскага», «Тварэнні Сімяона новага Багаслова», «Казанні пра лацінаў», зборнік жыцій святых, што адносяцца пераважна да ХУ ст. Пісец такіх кніг выконваў ужо шырокія творчыя функцыі і мог досыць вольна абыходзіцца з матэрыялам. Выбіраў яго, кампанаваў і выпраўляў, перакладаў, смела ўводзячы ў тэкст жывую моўную стыхію свайго краю.

Характэрна, што папера ў такіх рукапісах выкарыстоўвалася высокаякасная, разлічаная на мноства чытачоў. Прычым ішлі ў вытворчасць ужо мясцовыя гатункі, якія выраблялiся з канца XV ст. У наступным стагоддзі актыўна дзейнічалі папяровыя млыны ў Дзітве (Лідскі р-н), у Гальшанах (Ашмянскі р-н), Смаргоні, пазней Катлове (Навагрудскі р-н), Дзятлаве, Манцавічах (Лідскі р-н), Свіслачы.

Да Жыровіцкага кляштара былі прыпісаны 2 «Мінеі месячныя» XV ст, вельмі блізкія паводле тыпу пісьма. У адной з іх (183 аркушы, служба на сакавік і красавік) у канцы зроблена прыпіска: «Стефан

---

[1] Гадавік беларускага навуковага Таварыства. Кн. 1. Вільня, 1933, с. 32.
[2] Нікалаеў М. В. Палата кнігапісная. Мн. , 1993, с. 61.

Горностаевич діакон рукою власною року» 1626. І яшчэ: «Сія книга на імя мінея надана на церковь в Жировичах...»,[1] Такім чынам рукапіс станавіўся законнай прыналежнасцю храма. Ёсць у гэтай кнізе і пасляслоўе, што захоўвае звесткі пра пісца і час, калі яна была завершана. «Изволися написати сіа книгы, рекомы минеи марта с априлем в лето» 1487 «при державе короля польскаго Казимира, великаго князя Литовскаго. А повеленіем и желаніем пана Солтана, короля его милости маршалка литовскаго, нареченнаго в святом крещении Александр сын пана Александра подскарбьего земли Литовскыя. Роукою многогрешнаго и гроубаго діака Сенка родом Смолнянина от отца именем Іакуба.[2] Гэтая разгорнутая інфармацыя са спасылкаю на дзяржаўных асоб сведчыць, з аднаго боку, пра тое, што пісанне кніг станавілася актам па-грамадску значным, вартым урачыстага апавяшчэння, публічнага пацвярджэння. І яшчэ — справай масавай. Па-другое, звяртае на сябе ўвагу прыхільнасць пісцадзяка да царкоўнаславяншчыны, як і традыцыйнае імкненне прынізіць сваю асобу перад маральнай веліччу кнігі ( «а не клените моего худоумія и моломожства»),

Пэўна, і другая «Мінея месячная» XV стагоддзя (221 ліст, служба на студзень і люты) стваралася тым жа чалавекам і таксама была нададзена ў Жыровіцкі кляштар. Пра яе захоўванне ў мясцовай бібліятэцы сведчыць запіс 1758 года.

Сярод жыровіцкіх рукапісаў адзін з самых аўтарытэтных — евангелле XV ст. Спісана яно з старажытнага арыгінала, пра што сведчаць граматычныя формы ў тэксце і тып пісьма — вельмі правільны, буйны і прыгожы ўстаў. У кнізе 404 аркушы, на старонцы па 18 радкоў. Багаты аздобаю абклад, кампазіцыйна складаныя, жывапісна выразныя мініяцюры евангелістаў, шчодрасць колераў, пазалоты ў застаўках і ініцыялах — ўсё сведчыць пра высокі мастацкі ўзровень гэтага помніка рукапіснай творчасці. Пры гэтым цікава, што ўвасабленне персанажаў у мініяцюрах евангелля сведчыць пра адыход ад канону і паварот да народна-мастацкай традыцыі. В. Шматаў, у прыватнасці, адзначае, што ў гэтай кнізе «для вобразаў евангелістаў, характэрны простанародны тыпаж і жанрава-бытавая трактоўка антуражу».[3] У кнізе ёсць укладны запіс 1616 года канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі, які перадаваў на карысць Успенскай

---

[1] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. Вильна, 1882, с. 287.
[2] Тамсама.
[3] Гісторыя беларускага мастацтва. Т. І. Мн. , 1987, с. 235.

царквы «шмат земли»[1] ў саміх Жыровічах. Яшчэ адзін запіс (1620 г. ) пацвярджае зробленую раней перадачу на адрас Жыровіцкага кляштара маёнтка. 1763 годам датуецца запіс у кнізе аб яе прыналежнасці жа Жыровіцкай Успенскай царквы, у якой евангелле захоўвалася да 1895 г., калі кніга была перададзена ў Вільню, у Троіцкі кляштар.

У XV ст. пісана Ваўкавыскае евангелле, хаця паводле моўна-граматычных асаблівасцяў яно можа датавацца і ранейшым часам.[2] У кнізе — 648 старонак. Пачынаючы з 494-ай, унізе па старонках ідзе запіс: «Року 1751 месяца мая 10 дня посвящен есмъ в Струню от преосвященного архиепископа метрополита России Флориана Гребницкого, архипископа Полоцкого, за панованье короля его милости пана Казимера Корсака, судьи гродского Новогродского. Отец Иоанн Савич, презвитер церкви Волковицкой, имея в том часе лет 30».[3] Гэты запіс ваўкавыскага святара пра важную ў яго лесе падзею дае падставу адносіць евангелле да мясцовай царквы, дзе яно, відаць, захоўвалася.

Лес евангелля, як і многіх іншых пісьмовых помнікаў, быў нялёгкім. У 80-я гады XIX ст. кніга знаходзілася ў Віленскай публічнай бібліятэцы,[4] куды трапіла з-пад Віцебска, з Троіцкага кляштара. Пачатковыя і апошнія яе аркушы не збераглгіся. Пераплёт быў зроблены новы. У евангеллі выкарыстаны застаўкі і арыгінальныя багаццем каляровай гамы і пазалоты ініцыялы. Сустракаюцца тут і рэдкія ў рукапісах дэкаратыўныя малюнкі на палях.

У спісе XV ст. вядомае Гродзенскае евангелле, якое змяшчае тэксты чатырох кніг Новага Запавету. Яно ўвайшло ў зборнік з 388 старонак, пісаных у дзве калонкі па 25 радкоў. У кнізе ёсць запіс на беларускай і польскай мовах «гродзенскага пратапопа» Яна Сашкі пра незвычайныя сігналы на небе, якія з'явіліся 12 жніўня 1654 года. Зазначаецца, што тады Ян Мілашэўскі арандаваў землі Горніцкай царквы. Яшчэ — прыпіска пазнейшага часу: «Въ месте Индуры дня 27 месяца чэрвеня года ( два апошнія словы на лацінскай мове А.П.) 1655 помени господи душу раба своего Стефана Буваевича умарлого въ Минску».[5] Нават калі гэтыя прыпіскі зроблены ўладальнікам кнігі, што вельмі верагодна, то і ў такім выпадку высвятляецца яе рэгіянальная аснова: веска Горніца і мястэчка Індура знаходзяцца ў Гродзенскім раёне.

---

[1] Добрянский Ф. Указ. соч., с. 41.
[2] Гильтебрандт П. Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. Вып. I. Вильна, 1871, с. 13.
[3] Тамсама.
[4] Добрянский Ф. Путеводитель по Виленской публичной библиотеке. Вильна.
[5] Гильтебрандт П. Указ. соч., с. 35.

Вядома, найбольш аўтарытэтнымі ў сэнсе вызначэння адрасу кнігі з'яўляюцца звесткі, пакінутыя самім пісцом, якія аднак вельмі рэдка дэманстраваў сваю асобу. Праўда, у заходнім рэгіёне Беларусі, дзе рэнесансныя ідэі выявіліся досыць рана, не хаваюць свайго аўтарства і пісцы. У Трыёдзі, створанай у Гродне ў 1466 годзе, пісец згадаў пра сябе, пакінуўшы такі тэкст: «Написана бысть сия книга к церкви соборной пресвятыя богородица... еже ест оу городне роукою многогрешнаго раба божіа дьякона еоустафія».[1] Цікава, што згаданы дзяк Яўстафій дазволіў сабе і лірычна-філасофскае адступленне, якое зрэдку практыкавалася ў рукапісах і змяшчалася ў канцы кнігі. Тут выказаў свой роздум і радасць з нагоды завяршэння працы: «странице последней конец, а уму несть конца, яко заяц рад сети избег, так рад писец последнюю страницу дописав».[2]

Вельмі папулярнымі сярод масавага чытача таго часу былі ў рэгіёне кнігі «Чэцці», якія шмат перапісваліся. У кнігасховішчы Жыровіцкага кляштара знаходзілася «Чэцця Мінея» XV ст. з маляўнічымі застаўкамі і ініцыяламі.[3] Праўда, зберагліся толькі яе ўрыўкі. Асабліва каштоўная іншая кніга гэтага жанру, не звязаная з Жыровічамі. Але мае прамое дачыненне да рукапіснай творчасці ў прынёманскім краі. Гэта Чэцця 1489 года, якую пісаў у Камянцы на Брэстчыне Бярозка з Навагрудка.

Рукапіс выконваўся ў дзве калонкі ўставам, які ўжо рэдка практыкаваўся ў тыя часы, але даваў асаблівую магчымасць выявіць каліграфічнае майстэрства. Кніга дзеліцца на 2 часткі: уласна Чэццю, якая займае 287 аркушаў, і павучанні І. Златавуста, якія абрываюцца на 375 аркушы. Пераплёт захаваўся позні, канца XVII ст. На адвароце 286 аркуша пакінуты запіс: «Списана быс кніга сия нарицаемая четью в граде оу Камянци... в лето» 1489. « А псал сію кнігоу нехто ее березка з Новагородка с литовского попович, попа литовоцкого сын семионов. долбнича иж в нитрополии. а псал есми от початка книги сам. от дошкі до половины...».[4] Першая частка рукапісу, якую выканаў Бярозка, спісана акуратна і прыгожа, у другой — шмат папраўак, апісак. Чэцця, як відаць, перапісвалася з галіцка-валынскага арыгінала, бо ў мове помніка прыкметна заўважаюцца украінізмы. Але пісец з Навагрудка кіраваўся, як відаць, у вышэйшай ступені творчымі адносінамі да справы. Пра гэта сведчыць перш за ўсё моцная беларуская моўная стыхія ў стараславянскім тэксце помніка.

---

[1] Карский Е. Ф. Славянская кирилловская палеография. Л., 1928, с. 295.
[2] Свирин А. Н. Искусство книги древней Руси. XI-XVII вв. М. , 1964, с. 25.
[3] Наши провинциальные архивы и их значение для Западно-Русского края. Гродно, 1894, с. 31.
[4] Ластоўскі В. Згад. твор. , с. 166.

Беларускія моўныя асаблівасці заўважаюцца ў самых ранніх рукапісах, створаных на Гродзеншчыне. Прыкметныя яны, напрыклад, ужо ў Лаўрышаўскім евангеллі, нягледзячы на тое, што кананічны жанр кнігі вымушаў пісца быць строгім і дакладным у абыходжанні з стараславянскай мовай.

У Чэцці 1489 г. шырока выкарыстаны арфаграфічныя, граматычныя, лексічныя нормы беларускай мовы таго часу (узоры лексікі: узрост, володетй осподарь, але, вжиточный, вчинок, година, годовать, гольтяй, долов, допевна, досягнуть, заборонять, завжды, змуровать, казать, кликать, клопот, коло, моцно, местьце, небога, невдячен, обапол, обедать, повабливать, посоромотить, початок, приклад, прикро, скарб, скрыня, студень, сягагь, туга).

Рукапіс меў вялікае значэнне ў станаўленні беларускай літаратурнай мовы. А.Жураўскі адзначае, што «Чэцця лепш за іншыя старажытныя творы адлюстроўвае працэс трансфармацыі кніжнаславянскай мовы ў беларускую шляхам насычэння яе беларускімі моўнымі элементамі».[1]

Пленная дзейнасць пісца з Навагрудка за межамі свайго рэгіёну не адзіны вядомы факт такога роду. У XVI ст. пакінуў след у кнігапісанні на Украіне манах Макарый, які паходзіў з Гальшан. 1530 годам датуецца яго Пралог, пачаты ў Луцку і завершаны ў Дубне. Кніга напісана прыгожым, выразным паў-уставам. Складаецца з 404 аркушаў. У канцы ёсць пасляслоўе, дзе паведамляецца пра месца напісання, пра асоб, у гонар якіх стваралася кніга «рукою многогрешнаго раба Божія священноинока Макарія Львовича з Голшан родом». Пасляслоўе заканчваецца характэрнай паэтычнай формулай, якую трэба прызнаць адной з самых па-мастацку дасканалых у прыгожым лісьменстве усходніх славян. Тут, дарэчы, відавочныя асаблівасці роднай мовы аўтара гэтага помніка: «Рад быс заец изринувшися от тенета, а рыба от сети, а птіца от ютепца, а должнік от резоимца, а холоп от господаря, так рад быс писец достигши в книзе остаточного слова прелога сего и последній строки видечи як святого воскресения».[2]

У кляштары ў Дубне пісаў кнігі манах Арсеній, сын жыхара з Ваўкавыска. У перапісаным ім евангеллі (XVI ст.) таксама ёсць пасляслоўе, дзе ён адзначае сваё паходжанне: «Се аз смиренный ермонах арсеніе родом бывшій отцовскы сын пана Волковыского лукачов сын замыслих писати евангелие и соверших своею рукою гре-

---

[1] Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т І. Мн., 1967, с. 84.
[2] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, с. 200.

шною писах с великою нуждею болех главою силне и душею записуем свои труд по своем животе за своей доброй памяти».[1] Нельга не адзначыць, што згаданы Арсеній «надаў» Дубненскаму кляштару яшчэ 14 кніг (евангеллі, мінеі месячныя, службоўнікі і інш.), большасць якіх пісалася ім самім. І гэта гаворыць пра інтэнсіўнасць і самаадданасць працы на ніве кнігапісання «сына пана ваукавыскага».

Да канца XV-пачатку XVI ст. адносіцца Малажухавіцкае евангелле, якое паходзіць з царквы ў вёсцы Малыя Жухавічы (Карэліцкі р-н). Пазней, відаць, з XVII ст. захоўвалася ў Жыровіцкім кляштары. Пісалася паўуставам, стараславянскаю моваю з многімі беларускімі асаблівасцямі. Ёсць у кнізе чатыры мініяцюрныя выявы евангелістаў, застаўкі і ініцыялы, выкананыя ў золаце, загалоўкі, пісаныя кінаварам. Тым жа часам датуецца зборнік «Бяседы», асноўнае месца ў якім займаюць казанні папы Рымскага Грыгорыя (398 аркушаў). Рукапіс належаў Навагрудскаму кляштару і, магчыма, тут быў створаны. Затым стаў уласнасцю Жыровіцкага кляштара, пра што сведчыць памета, выкананая на старонках гэтай кнігі ў 1758 г. Тады была зроблена перарэгістрацыя бібліятэчных фондаў у Жыровічах і на кожнай адзінцы пакінуты запіс: «сія книга ест з Бібліотекй монастира Жировицкаго, чину св. Василия Великаго 1758 anno подписана». Тэкст гэты меў свае варыянты, але абавязкова паўтараўся на старонках кніг. Жыровіцкі кнігазбор быў вельмі багаты. Тут пісаліся і зберагаліся кнігі, якія паводле жанру належалі і да культавых помнікаў, і да літаратуры, разлічанай на шырокага чытача. Гэта датычыць і жыційнай літаратуры XVI ст. Да яе можна аднесці два пралогі з Супраслеўскага кляштара, што пісаліся ў Навагрудку. Гэтак званы шырокі Пралог 1512 года змяшчае традыцыйныя раздзелы адпаведна шасці месяцам года. У кнізе 625 аркушаў, на першым маляўнічая застаўка балканскага тыпу. Пісана паўуставам, які нярэдка пераходзіць у прыгожы буйны ўстаў. У пасляслоўі гаворыцца: «при великом короли Жикгимонти а при митрополите киевском и всея Роуси архіепйскопе кир Иосифе при воеводе Новьгородском пану Яноу Яновичоу Заберезенском написана быс сія книга». Крыху ніжэй «инок діаконець Іоакймець а роукою многыхъ дьяковъ». На адвароце апошняга аркуша — важная інфармацыя: «переплетена быс сіа книга рукою іерея Прьфйрія иж в Любчи».[2] (1512 г.). У Пралогу ёсць раздзел, прысвечаны віленскім пакутнікам, кананізаваным царквою ў XIV ст. Пачынаецца ён так: «Мученіе святых новоявленых мученик родом

[1] Востоков А. Описание русских и словенских рукописей Румянцовскаго музеума, с. 189.
[2] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, с. 193.

Литвы Іоана, Антоніа і Еустафія. Литовские ж им имена Кроуглец, Коумец, Нежыло». Я.Карскі[1] слушна ўдакладняе, што ў тэксце шмат беларускіх асаблівасцяў.

Другі Пралог, кароткі, вельмі блізкі да папярэдняга. І.Ф. Дабранскі мяркуе, што пісаны ён тым жа дыяканам Якімцом.

Скупыя звесткі захаваліся пра Маламажэйкаўскае евангелле, створанае ў XVI ст. Затое багата фактаў пра гісторыю царквы, пабудаванай паміж 1516 і 1542 г. ля вёскі Малое Мажэйкава (Шчучынскі р-н), для якой спісвалася згаданае евангелле. Дакументы XVI-XVII ст. сведчаць, што царкву надзялялі самай рознай маёмасцю. Усё гэта стымулявала і творчую працу пісцоў. У Малым Мажэйкаве было шмат пісьмовай літаратуры. Евангелле ж вылучалася старажытнасцю, багаццем афармлення, выкананага ў золаце і срэбры. На вокладцы зялёнага колеру было пяць срэбных і залочаных мініяцюр па краях. На старонках кнігі шмат інфармацыі пра царкву і яе зямельныя ўладанні. Дакумент 1660 года пацвярджае[2] знаходжанне еваигелля ў гэтай царкве. У 1864 г. кніга трапіла на вочы галоўнаму карніку Беларусі графу М. Мураўёву, і след евангелля згубіўся.

Не засталося звестак пра Шчорсаўскае евангелле 1545 г., якое згадваецца В.Сямёнавым.[3] Кніга зберагалася ў царкве святога Дзмітрыя ў вёсця Шчорсы (Навагрудскі р-н) не так і даўно, відаць, на пачатку XX ст.

Да рукапісных помнікаў Гродзеншчыны трэба аднесці і Гальнкаўскае евангелле («Голынское») канца XVI ст., якое складалася з 516 старонак. Пераплёт быў зроблены пазней, апраўлены ў малінавы аксаміт. Верхняя дошка аздоблена сярэбранымі накутнікамі з выявамі евангелістаў, на ніжняй па кутках паўшарыкі. У тэксце ёсць запіс 1713 г., які сведчыць, што кніга «оправлена коштом побожного человека именем Григория Конецкого до церкви Голынское».[4] Вёсак з назваю «Гальнка» ў Гродзенскай вобласці налічваецца 8, некалькі такіх назваў за межамі Гродзеншчыны. Але найболей верагодна, што евангелле належала Старой Гальнцы (Зельвенскі р-н), дзе была старажытная царква, разбураная ўжо ў наш час, у 70-я гады XX ст.

Ёсць падставы лічыць навагрудскім евангелле з чатырох частак, пісанае паўуставам у 2-й палове XVI ст. У канцы яго скорапісам зроблена лаканічная прыпіска: «Новогородка Литовского».[5]

---

[1] Карскій Е. Ф. Белорусы. Т. 111. Вып. 2. Петроград, 1921, с. 140.
[2] Литовскія Епархіальныя Ведомости, 1873, №34, с. 307.
[3] Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т.9. СПб, 1905, с.430.
[4] Гильтебрандт П. Указ. соч. с. 37.
[5] Перетц В И. Рукописи библиотеки Московского университета. Самарских библиотеки и музея и Минских собраний. Л., 1934, с. 177.

1545 годам датуецца Трэбнік у драўляным абкладзе з прыгожымі застаўкамі, які захоўваўся ў Жыровіцкім кляштары. Кніга пісалася дзяком Ярмолам у двары Шышкіні «подле места Виленскаго за рекою Вельею» для царквы ў Жыровічах па загаду маршалка Аляксандра Солтана.[1]

[1] Беларуси каляндар на 1929 год. Вільня, 1929, с. 65-66.

## ЧАС РЭНЕСАНСУ

У XVI ст. развіваецца ў Беларусі друкаванае слова. Першая друкаваная прадукцыя на Гродзеншчыне з'явілася каля 1567 года — у Гродне была выдадзена брашура, якая выклікала рэзка адмоўную рэакцыю каталіцкага духавенства. Выданне было падрыхтавана, пэўна, гродзенскімі арыянамі. Праўда, ёсць пра яго толькі скупыя ўскосныя звесткі.[1]

І ўжо нельга прыняць сцвярджэнне пра гродзенскія друкі, якія, быццам бы, выходзілі пад патранатам мясцовага праваслаўнага брацтва ў канцы XVI ст. Такі факт абвяшчае «Беларуская савецкая энцыклапедыя», дзе, у прыватнасці, зазначана, што ў Гродне «у 1591 г. заснавана брацкая школа, друкарня, дзе выдавался кнігі і на беларускай мове».[2] Наконт існавання друкарні праваслаўнага брацтва ў Гродне выказваецца і сучасны даследчык беларускага кнігадруку Н.Бярозкіна.[3] Але гэтыя меркаванні не падвярджаюцца ніякімі фактамі. Справа не толькі ў тым, што тагачасныя гродзенскія выданні невядомыя. Праваслаўныя брацтвы, якія ўзніклі ў Гродне і Гальшанах (больш у рэгіёне такіх арганізацый не было) у 1591-1594 гадах, былі вельмі слабыя і хутка, відаць, спынілі сваё існаванне. Натуральна, што слядоў сваёй дзейнасці на ніве кнігадруку яны не пакінулі. Аднак выданні, якія выйшлі з друкарскага варштата, былі добра знаёмы ў рэгіёне, дзякуючы студэнтам з гэтых мясцін, якія вучыліся ў універсітэтах Заходняй Еўропы. Яны прывозілі на радзіму ў XV-XVI стст. самую розную кніжную прадукцыю (пераважна на лацінскай мове). У кніжнай калекцыі магістра Кракаўскага універсітэта Адама з Котры[4] знаходзілася інкунабула 1477 года, у якой меўся запіс: «Книга Адамова Іакубовйча с Котьри... с Литвы з волости городенское...»[5] У гэты час камплектаваліся бібліятэкі ў дварах заможнай шляхты і магнатаў. У першай палове XVI ст. збіралася, напрыклад, бібліятэка Зяновічаў у Смаргоні. Уладальнік яе Хрыстафор Зяновіч перадаваў кніжны збор сыну як «найвялікшую каштоўнасць», прасіў «не раскідваць яе, але, дасць Бог, і павялічваць і заўжды трымаць у адным месцы».[6]

Не знойдзены пакуль доказы, што пацвярджалі б факт існавання старажытнай друкарні ў мястэчку Дзярэчын (Зэльвенскі р-н). 1585

---

[1] Гродно. Исторический очерк. Мн. , 1964, с. 27.
[2] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т.4. Мн., 1971, с. 26.
[3] Бярозкіна Н. Ю. Гісторыя кнігадрукавання Беларусі (XVI- пачатак XX ст). Мн., 1998, с. 58.
[4] Вёска Котра знаходзіцца ў Гродзенскім раёне.
[5] Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976, с. 62.
[6] Тамсама, с. 68.

годам датуе адкрыццё такой друкарні А.Кіркор[1], а ўслед за ім М.Гарэцкі[2]. Магчыма друкарскі двор быу тут створаны ўладальнікамі мястэчка, прыхільнікамі пратэстантызму і дзейнічаў нядоўга. Прынамсі, уражвае дакладны адлік часу, прыведзены А.Кіркорам 1585 год, з якім звязана іншая падзея мясцовага значэння. Аднак кнігі, пазначаныя дзярэчынскім адрасам, сёння невядомыя.

Кніжная культура на Гродзеншчыне ў XVII ст. выяўляе ўсё большую цікавасць да свецкіх каштоўнасцяў. Рэпертуар рукапісных кніг паступова адыходзіць ад рэлігійных канонаў, з'яўляецца многа розных зборнікаў змешаных па змесце. І ўсё ж сіла царкоўна-кніжнай традыцыі была моцнай. У XVII ст. створаны ў рэгіёне яшчэ шэраг рукапісных евангелляў. Два з іх, пісаныя у Карэлічах і Вялікіх Жухавічах (Карэліцкі р-н), зафіксаваныя ў гістарычных крыніцах. У Карэліцкім евангеллі ёсць два скупыя пабочныя запісы, якія дазваляюць і датаваць яго, і вызначыць пэўны яго адрас. У канцы 4-ай часткі евангелля прыпісана: «Іоан Грыгоровіч Сажка Пресбитер церкви корелицкое рукою своею», далей на польскай мове: «у годзе тысяча шэсцьсот сорак сёмым».[3] А ніжэй яшчэ адзін запіс па-польску, які сведчыць, што руку прыклаў «Юзаф Плаўскі прасвітар царквы Карэліцкай... у годзе 1696»[4]. Значыць кніга ўзнікла не пазней за 1647 год, пісаная, пэўна, у Карэлічах, і Сажка — хутчэй за ўсё —перапісчык евангелля. У кнізе каля 300 аркушаў. Пісаная паўуставам у адну калонку, па 21 радку на старонцы. Ёсць чатыры застаўкі балканскага стылю, адметныя шырокім дыяпазонам колераў, кінаварныя ініцыялы. Пераплёт з дошак, на верхняй — у сярэдніку абраз, выкананы ў срэбры, дзве мініяцюры евангелістаў па кутах.

Евангелле з Вялікіх Жухавічаў, што захоўвалася ў Беларускім музеі ў Вільні, пісанае выразным паўуставам, цікавае сваім пасляслоўем у канцы кнігі. Дакладней, пасляслоўе тут у двух варыянтах. Першы, на беларускай мове, досыць традыцыйны і ўвасабляе пажаданне чытачу папраўляць пісца, не дакараць строга за магчымыя памылкі. Другі варыянт, на польскай мове, разгорнуты, рэдкі ў рукапісных помніках тым, што пісец не цураецца гаворкі пра звычайныя справы, пра сябе і, такім чынам, непасрэдна кантактуе з чытачом, што было вынікам рэнесанснай ідэалогіі, уздзеяння і тагачаснай літаратуры. Вось пасляслоўе ў перакладзе з польскай мовы: «Пачаў гэтую кнігу пісаць сакавіка 5 спачатку на такой паперы, якую меў, бо адчуваў у гэтым

---

[1] Живописная Россия. Т. III. Ч. I-II. СПб-М. , 1882, с. 101.
[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Мн. , 1992, с. 144.
[3] Минская старина. Труды Минского историко-археологического комитета. Вып. 2. Мн., 1911, с. 202.
[4] Тамсама.

вялікую патрэбу, бо ў гэтай Жухавіцкай царкве, апрача Трыёдзі каляровай, ніякіх кніг не было, мусіў пісаць Апостал, Шастаднеўнік, Трафалой, і то большай часткаю памянёныя кнігі пісаў пры лучыне ноччу, леваю рукою свецячы, а праваю пішучы, г.зн. у левай руцэ трымаючы лучыну, а ў правай пяро, і то тады, калі меў паперу і які грош заробку, каб было за што яе купіць, дабрадзея ніякага не маючы, які б мог мне ў гэтым дапамагчы, сам шмат старанняў прыклаў, сваімі рукамі зарабляючы сякія-такія сродкі на гэтыя кнігі, напісаўшы Апостал, Шастаднеўнік, Трафалой, напісаў і гэтую святую кнігу Евангелле, няхай усё гэта будзе на гонар і хвалу Богу ў тройцы адзінаму і найсвяцейшай панне Марыі і ўсім святым. Амін. А хто б гэтыя памянёныя кнігі наважваўся якім-небудзь спосабам у гэтай святой царквы Жухавіцкай і на свой пажытак выкарыстаць або паводле сваёй волі іншай царкве перадаць, няхай яго спасцігне анафема, г.зн. праклящце навек, і са мною павінен будзе мець справу ў страшны дзень суду божага і з тымі, хто прычыніўся да аправы гэтага святога Евангелля і імёны чые запісаны ў кнігах жыцця і тут ніжэй абазначаны для дабра іншых.

Нягодны Лукаш Прасвітар царквы Жухавіцкай рукою сваёю 1668 месяца красавіка 13 дня»[1].

Маналог гэты каштоўны не толькі канкрэтнай інфармацыяй, якая датычыць часу, месца стварэння рукапісу, яго аўтарства. Перад намі, па сутнасці, літаратурны твор, у якім вытрыманы характэрныя для гэтага жанру формулы, што адпавядалі этыцы такога высокага акту, як перадача гатовай ужо кнігі царкве і адносінаў да такой кнігі нашчадкаў.

З кніг рэлігійна-службовых, створаных у XVII ст. на Гродзеншчыне, заслугоўвае ўвагі Богагласнік, які зберагаўся ў Жыровіцкім кляштары. Рукапіс змяшчае ноты і песенныя тэксты на беларускай мове (з прымессю старaславянскай), пісаны лацініцаю, якая толькі пачынала тады ўводзіцца ў беларускія кніжныя тэксты. Згаданы Богагласнік — ці не адна з першых кніг такога тыпу. Увогуле ж цяпер заўважаецца перавага зборных рукапісаў, што складаліся з розных пазнавальных матэрыялаў, казанняў, пісаных пераважна на беларускай мове. Сярод іх — Жыровіцкі хранограф (950 аркушаў), у які ўвайшлі рукапісы XVI-XV1I стст., Мінея зборная (438 стар.), якая да 1867 г. была ўласнасцю кляштара ў Барунах (Ашмянскі р-н), два зборнікі павучанняў з Жыровіцкага кляштара (на адным — прыватная прыпіска 1660 года, другі з застаўкамі і ініцыяламі), «Бяседы»

[1] Ластоўскі В. Згад. твор, с. 578. 1-8

Іаана Златавуста (349 аркушаў), нададзеныя з Пінска у Жыровіцкі кляштар. Заслугоўваюць увагі казанні мясцовых духоўнікаў, дадзеныя ў тагачасных спісах. Сярод іх казанне пра абраз Жыровіцкай Божай маці манаха з Жыровіч Фядосія Баравіка. Твор гэты, запісаны ў 20-я гады XVI ст., называецца «Гистория або повесть людей разных, веры годных, о образе чудовном пренасветлейшее девы Марии Журовецкой в повете Слонимском». Цікавы Жыровіцкі Ліманар — зборнік жыційных матэрыялаў (117 аркушаў). Ён сведчыць, што рукапісы ў XVII ст. у гэтым рэгіёне ствараліся і на аснове друкаваных выданняў Ліманар — вольны спіс кіеўскага друку 1628 года С.Собаля. У кнізе, пісанай па-беларуску, шмат дыдактычных афарызмаў, а ў адной з пропаведзяў «хорошыи два вершики»:

Кгды ся споткаеш з белою плотью, а трудно ся минуты Не седсш лечь отходи, бы ти не пришло згинути.[1] Даюцца гэтыя радкі і ў перакладзе на лацінскую мову. Неабходна адзначыць, што вершаваныя прыёмы ўжо дастаткова распаўсюджаны ў кнігапісанні. У гэтым нельга не бачыць уздзеяння педагагічна-тэатральнай практыкі тагачасных школ, дзе майстэрству вершатворчасці надавалася вялікае значэнне.

У пачатку XVII ст. разгортваюць сваю дзейнасць у рэгіёне друкарскія двары — з'яўляюцца друкарні ў Мураванай Ашмянцы (Ашмянскі р-н) і Любчы (Навагрудскі р-н). Рэфармацыйны рух цяпер быў ужо моцна аслаблены націскам Контррэфармацыі. Але на заходніх землях заставаліся яшчэ трывалымі пазіцыі некаторых кальвіністаў з вядомых тутэйшых родаў. Магнаты ў апошнія паўстагоддзя стараліся ўтрымаць свой грамадскі і эканамічны аўгарытэт, павялічыць уладанні за кошт каталіцкай царквы, і вялі наступ на праціўніка, ствараючы зборы, якія станавіліся культурна-асветнымі цэнтрамі. Некаторыя актыўна займаліся навуковай і літаратурнай працай, падарожнічалі, адкрывалі школы і друкарні. Такім быў Крыштоф Дарагастайскі з Мураванай Ашмянкі, вучоны і грамадскі дзеяч, маршалак ВКЛ. Ён з'яўляецца аўтарам першага ў Рэчы Паспалітай даследавання па анатоміі і фізіялогіі коней. Кніга гэта «Хіпіка... » у 4-х частках — як лічаць некаторыя аўтары[2], друкавалася ў Мураванай Ашмянцы. Аднак у сапраўднасці яна выйшла ў Кракаве ў 1603 годзе[3], а затым шмат разоў перавыдавалася ў Польшчы. К. Дарагастайскі клапатліва апекаваўся друкарняй, якую заснаваў у Мураванай Ашмянцы яго бацькакальвініст (памёр у 1597 г). Няма звестак, з якога канкрэтна

---

[1] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, с. 395.
[2] Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, №3, с. 39.
[3] Bruckner A. Dzieje kultury polskej. T. 2. Kraków;1931, s. 548-549.

часу і як доўга друкарня працавала. «Прынамсі, была найбольш актыўнай у першай палове XVII ст»[1]. Тут выдаваў свае палемічныя творы, скіраваныя супраць садыніян, прапаведшк мясцовага кальвінскага збора Войцех Салінарскі. У 1615 годзе тут выйшаў яго публіцыстычны трактат на польскай мове «Цэнзура...» ( у 6-ці частках). Скора памёр К. Дарагастайскі, і друкарня, пэўна, перастала дзейнічаць. Гэты збег акалічнасцяў, а таксама некаторыя іншыя дэталі скіроўваюць польскіх даследчыкаў да такіх меркаванняў: «Калі сапраўды маршалак валодаў друкарскім варштатам, то ці можна раптоўнай яго смерцю, якая прыпадае на гэты самы год, растлумачыць той факт, што ашмянская прэса нечакана змоўкла? Толькі разгледзеўшы друкарскую структуру «Цэнзуры», з здзіўленнем знаходзім у ёй элементы вытворчасці Пятра Кміты з Любчы. Высвятленне загадкі, з якой сутыкаемся, можа ісці ў двух напрамках. Або з погляду на асобу аўтара і пажаданне патрона збора Кміта прыслаў друкара і патрэбны матэрыял, або, што найбольш верагодна, калі ўлічыць памер кнігі і разнароднасць стылю пісьма — кніга адбіта ў Любчы. Паколькі ў друк аддаваў напэўна Дарагастайскі, магчыма, паставіў ўмову, каб у тытуле была назва Ашмяна. Такая замена месца друку на месца «выдання» не стала б выключным выпадкам. Тдучы далей, варта было б Ашмяну выкрасліць з рэестра мясцін, у якіх былі друкарскія прадпрыемствы. Аднак падстаў вельмі мала, каб справу высветліць у духу адной ці другой гіпотэзы»[2].

Сказана слушна, што мала падстаў. І невядома, урэшце, што друкарня ў Мураванай Ашмянцы «нечакана замоўкла», як невядома, калі яна пачала даваць прадукцыю. Што ж датычыць пэўнай пераклічкі друкарскіх прыёмаў, якая збліжае кнігу В.Салінарскага з выданнямі Кміты з Любчы, то яна, гэтая пераклічка, можа лёгка тлумачыцца перайманнем, запазычаннем. Друкары ў Любчы, якія напэўна былі пераведзены сюды з Вільні і працавалі вельмі інтэнсіўна, мелі ужо высокую спецыяльную кваліфікацыю, багаты вопыт. Зусім магчыма, што людзі, якія працавалі ў Дарагастайскага, стараліся сёе-тое пераняць у іх. Гэта тым больш верагодна, што любчанскія выданні хутка распаўсюджваліся, набывалі шырокую вядомасць і папулярнасць.

Друкарскі двор у Любчы працаваў вельмі плённа і трымаўся паўстагоддзя (1612-1656). Друкарня ў наднёманскім мястэчку была цесна звязана з лагерам кальвіністаў і карысталася падтрымкаю ма-

---

[1] Jankowski Cz. Powiat Oszmianski. Materjaly do dziejów ziemi i ludzi. Cz. I. PeterburgKraków, 1896, s. 336.
[2] Drukarze dawnej Polski od XVdo XVIII wieku. Zeszyt 5. Wroclaw—Kraków, 1959, s. 193-194.

гутнага ў гэтым лагеры Крыштофа Радзівіла. Яна дзейнічала з размахам, змагла стварыць шырокае кола аўтараў і стала на доўгі час выдавецкім і інтэлектуальным цэнтрам кальвінізму ў ВКЛ. «Ні адна друкарня на Літве не магла пахваліцца ў XVII ст. такой даўгавечнасцю і такой актыўнасцю, якую праяўляла любчанская»[1]. Прадукцыя яе (выпускалася на лацінскай і польскай мовах) заслугоўвае сур'ёзнай увагі.

Друкарня ў Любчы, працягваючы гуманістычныя традыцыі Рэнесанса, не абмяжоўвалася выпускам канфесійнай, пратэстанцка-прапаведніцкай літаратуры. Тут досыць паслядоўна ажыццяўляўся выхад свецкіх кніг. У прыватнасці, выдаваліся кнігі па медыцыне, ветэрынарыі, хіміі, педагогіцы, гісторыі, геаграфіі, фальклоры, літаратурна-мастацкія, астралагічныя выданні, розныя інфармацыйна-даведачныя і школьныя дапаможнікі, пераклады класікаў старажытнасці, зборнікі хрэстаматыйных тэкстаў, песеннікі з нотамі, календары і інш. У гэтым напрамку друкарня асабліва паспяхова працавала ў першы перыяд сваёй дзейнасці, з 1612 г. да пачатку 30-х г., калі яе ўзначальваў Пётр Бласт Кміта.

Змест прадукцыі друкарскага двара ў Любчы сведчыць аб тым, што рэнесансныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі дзейнічалі ў І-ай палове XVII ст., што Рэфармацыя і Контррэфармацыя тут парадаксальна спалучаліся.

У розных крыніцах сустракаюцца сцверджанні, што любчанскі друкарскі двор заснаваны ў 1592 г.[2] тагачасным уладальнікам мястэчка Янам Кішкам. Гэтай думкі трымаліся і Я.Лялевель, Ю.Крашэўскі. Але думка не атрымала фактычнага падмацавання. Першы любчанскі друк на самай справе падпісаў П.Кміта ў 1612 г. Дагэтуль ён працаваў (з 1606 г.) у Віленскай друкарні вядомага Я.Карцана. Я.Карцан, відаць, памёр у 1611 г., бо з гэтага часу Кміта падпісвае прадукцыю гэтай друкарні, якая, магчыма, становіцца яго ўласнасцю, і ў 1612 г. пераводзіць яе далей ад магчымых праследаванняў працiўнікаў кальвінізму ў ціхую наднёманскую мясціну, у Любчу.

П.Кміта быў таленавітым арганізатарам, друкаром і выдаўцом, асветнікам, меў бясспрэчныя літаратурныя здольнасці. Складальнік многіх кніг, рэдактар, перакладчык, ён пісаў вершы, публіцыстычныя прысвячэнні у гонар вядомых дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў. Разам з тым П.Кміта добра ўлічваў грамадскія абставіны свайго часу, калі ўзмацнялася Контррэфармацыя. Ён не мог адкрыта весці

---

[1] Тамсама, с. 144.

[2] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. Warszawa, T.3. 1846, s. 649; Бобровский П. Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерния. Ч. I. СПб, 1863, с. 96; Живописная Россия. Т. 3, с. 375.

антыдагматычную барацьбу, і лінія яго друкарскай дзейнасці была досыць гнуткаю. Пратэстанцкая наднёманская друкарня дэбютавала рэлігійна-каталіцкім творам — «Шэсць крылаў серафімавых...» святога Банавантуры з дадаткам «шасцідзесяці духоўных Сентэнцый», «У Любчы. У Друкарні Пятра Бластуса. Года 1612».

Браў П.Кміта заказы і ў лютэранаў. Умеў захаваць знешнюю раўнавагу паміж прадукцыяй свецкага і рэлігійнага характару. 1 пры ўсім гэтым настойліва прапагандаваў ідэі пратэстантызму, здабыткі культуры свайго рэгіёну, змагаўся за развіццё чалавечага розуму, за пашырэнне ведаў.

Адным з першых значных выданняў П.Кміты ў Любчы з'яўляецца кніга «Кароткія і дасціпныя аповесці», якія па-грэчаску называюцца «Апафегматы», двойчы выпушчаныя ў 1614 г. Гэта зборнік займальных і павучальных апавядальных твораў пра вядомых філосафаў, дзяржаўных і ваенных дзеячаў, «жанчын мудрых» старажытнай Грэцыі, Рыма, Егіпта, Індыі, Персіі, сярэднявечнай Еўропы, цікавы багатым пазнавальным матэрыялам. Зборнік, складзены вядомым беларускім гуманістам Беняшом Будным, быў упершыню выдадзены ў Вільні ў 1599 г. Я.Карданам і змяшчаў «кароткія аповесці» пра 123 дзеячаў мінулага. П.Кміта значна пашырыў гэтую своеасаблівую анталогію уключыў у яе каля 30-ці новых гістарычных персанажаў, сабраўшы матэрыялы пра іх з разнастайных пісьмовых крыніц. Увёў, акрамя таго, пераказ аднаго з апавяданняў Бакачыо і разгорнутае прысвячэнне Адаму Храптовічу, з якога відаць, што апошні быў частым госцем друкарні, старанным чытачом яе выданняў і ўсяляк падтрымліваў любчанскага друкара. Пазней, у XVIII-XIX стст. «Апафегматы» у скарочаным выглядзе выдаваліся ў Расіі каля 20-ці разоў.

У 1618 г. П. Кміта выпусціў выдатнае ў многіх адносінах выданне — кнігу прыказак і прымавак, сабраных С. Рысінскім.

Саламон Рысінскі — вельмі прыкметная фігура сярод аўтараў, што друкаваліся ў Любчы. Паэт, гуманіст-асветнік, даследчык Прынёмання, ён быў высокаадукаваным чалавекам. Доўгі час жыў у Любчы пад апекаю К. Радзівіла, таксама ў Дзяляцічах, дзе і памёр. Пахавалі яго ў Любчы.

Рысінскі выдаў у Любчанскай друкарні тры кнігі: «Некаторыя псалмы Давідавы» (1614), выкладзеныя ім у вершаванай форме, таксама «Помнікі, пастаўленыя розным асобам» (1615), дзе сабраны складзеныя ім шматслоўныя, квяціста-напышлівыя надмагільныя казанні, адрасаваныя асобам з радзівілаўскай сям'і, іншым з кальвініцкага асяроддзя, і згаданы вышэй зборнік народных афарызмаў «Выслоўі».

У зборнік увайшло звыш 1800 беларускіх народных прыказак, фразеалагізмаў, трапных выказванняў, якія назапашваліся аўтарам амаль 40 гадоў. Прыказкі суправаджаюцца ў кнізе шматлікімі варыянтамі, паэтычнымі аналогіямі да арыгінала, якія Рысінскі бярэ з розных літаратурных крыніц, выкарыстоўваючы такіх аўтараў, як Арыстоцель, Эўрыпід, Дэмасфен, Плаўт, Вергілій, Авідзій, Эзоп і інш. Кніга, што сведчыць аб шырокай філалагічнай эрудыцыі аўтара, з'яўляецца ці не першым у славяназнаўстве выданнем такога тыпу. У той жа час яна гаварыла чытачу пра рэальныя, зямныя каштоўнасці і была надзвычай свежай і чыстай з'явай у кніжнай культуры. «Такая кніга, — пісаў ў 1863 годзе Вінцэсь Каратынскі, — паварочвала розумы ад шкалярскіх галаваломак, памножаных касцельнымі дыспутамі, да роднай, здаровай крыніцы ведаў»[1]. «Выслоўі» С.Рысінскага восем разоў перавыдаваліся ў Рэчы Паспалітай і ў Расіі ў XVII-XIX ст.ст.

Характэрна, што многія прыказкі і прымаўкі, апублікаваныя тады ў Любчы, сёння шырока вядомыя ў вусным бытавым ужытку беларусаў. С.Рысінскі перакладаў на польскую мову такія народныя творы часцей літаральна, і яны не змянілі сваёй першароднасці. Вось асобныя ўзоры, арыгінальны тэкст якіх лёгка аднаўляецца[2]: «Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца» (с.102), «Што галава, то й розум» (с.105), «Да пары збан ваду носіць» (с. 109), «Дараванаму каню ў зубы не глядзяць» (с. 109), «Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца» (с. 128), «Калі паны сварацца, у мужыкоў чупрына трашчыць» (с. 130), «Жыве, як гарох пры дарозе» (с. 145), «Не тое золата, што блішчыць» (с. 149), «Не кажы «гоп», пакуль не пераскочыш» (с. 150), «Не мела баба клопату — купіла парася» (с. 150), «На адным месцы і камень мохам абрастае» (с. 154), «Дурняў не сеюць, яны самі родзяцца» (с. 155), «На лаўца і звер бяжыць» (с. 158), «Не так страшны чорт, як яго малююць» (с. 160), «Ахвота горш за няволю» (с. 166), «Рада бы душа ў рай, ды грахі на пускаюць» (с.177), «Трымаецца, як п'яны плоту» (с. 184), «Выскачыў, як Піліп з канапель» (с. 190) і інш.

Шырокія асветніцкія мэты П. Кміты сумяшчаліся з фінансава-эканамічнымі інтарэсамі прадпрыемства. Пра гэта сведчаць выдадзеныя папулярныя кнігі, разлічаныя на масавага чытача. Напрыклад, маралізатарскія творы польскага пісьменніка А.Владыслаўскага, у прыватнасці, яго «Прыгоды і смешныя справы людзей розных саслоўяў» (1613). У гэтым жа шэрагу стаяць і творы даўняга саратніка

---

[1] Каратынскі В. Творы. Мн. , 1981, с. 97.
[2] Цыт. паводле выдання «Biblioteka starożytna pisarzy polskich». Zebrał K.W1. Wójcicki. Drugie wydanie, znacznie powiększone. Tom U. Warszawa. 1854. У дужках старонкі кнігі.

С.Буднага Ю.Даманеўскага, прасякнутыя духам пратэстантызму: «Побыт землеўласнікаў і гараджанаў», «Прытчы Саламона...» у вольнай аўтарскай інтэрпрэтацыі, дзе абараняецца праца, гандаль і рамёствы, «Некаторыя эмблемы», дзе апісваюцца розныя прыродныя сігналы і знакі, па якіх з даўніх часоў арыентаваліся мораплаўцы. Гэтыя і іншыя кнігі Ю.Даманеўскага — своеасаблівы збор яго твораў — былі выдадзены ў Любчы ў 1620-1623 гг.

Значную пазнавальна-асветніцкую і практычную каштоўнасць мелі падрыхтаваныя П.Кмітам «Хатнія лекі, сабраныя з розных аўтараў» (1616, 1622), «Дарадчык па хіміі або апісанне карыснага дзеяння лекаў» Р.Швертнера (1624), «Адбор і навучанне коней, пры гэтым лекі на многія выпадкі і хваробы конскія» (1617, 1627). У 1620 г. выпусціў П.Кміта ў сваім перакладзе «Астралагічныя прагнозы... на 1621 год» С.Херца. Нямалую гістарычную дікавасць мелі такія любчанскія выданні, як папулярная раней у рукапісах «Гісторыя Іудзейскай вайны» І.Флавія (1617), «Кампендзіум або кароткае апісанне князёў і кралёў польскіх» П.Дземітровіча (1625), перапрацаваныя паэтам С.Доўгірдам фрагменты твораў М. Стрыйкоўскага, выпушчаныя пад назваю «Генеалогія або сціслае апісанне вялікіх князёў літоўскіх» (1626). Карысталіся поспехам у чытача дзве вершаваныя аповесці С.Доўгірда, напісаныя на біблейскія тэмы — «Сюзана» (1624) і «Іосіф, запрададзены ў Егіпет». Багата пазнавальных звестак было у кнізе А. Поляка «Харагpафія або апісанне святой зямлі» (1617). Варта адзначыць і выдадзены ў Любчы ў 1628 г. статут, таксама метадычныя патрабаванні і навучальную праграму Слуцкага гуманітарнага ліцэя, які адыграў прыкметную ролю ў культурна-асветным жыцці Беларусі.

Увогуле ж Любчанская друкарня выпускала і пратэстанцкую літаратуру, аб'ядноўваючы ў часы П.Кміты такіх аўтараў, як Я.Зыгроўскі, П.Сестранцэвіч, Б.Лабецкі, А.Вянгерскі, Д.Набароўскі, што нястомна змагаліся супраць дэспатычных догмаў і схаластыкі каталіцызму, рэлігійнага прымусу, выступалі за развіццё асветы. У сваёй творчасці гэтыя аўтары шырока выкарыстоўвалі жанр надмагільных казанняў, якія друкаваліся з выпадку смерці вядомых грамадска-культурных дзеячаў, што належалі да лагеру кальвінізму. Праслаўляючы грамадзянскія заслугі гэтых людзей, раскрываючы іх лепшыя чалавечыя якасці, аўтары казанняў даводзілі такім чынам жыццёвасць і плённасць ідэй пратэстантызму. Асабліва актыўна працаваў на гэтай ніве Ян Зыгроўскі, які выдаў у Любчы ў 16161621 г. 7 казанняў. Ён узвышае культурна-асветныя справы Ф.Еўлашоўскага, М.Кавячынскага, К.

Швыкоўскага, ухваляе дзейнасць кальвініста Я.Радзівіла (у сувязі з яго смерцю выдаў у Любчы ў 1621 г. шэраг іншых казанняў[1]). Вялікае значэнне для прапаганды пратэстантызму мелі такія работы Я. Зыгроўскага, як «Дэкларацыя...» (1617) і асабліва два выданні падручнага «Катэхізіса» (1618, 1621). Зыгроўскі падрыхтаваў і брашуру «Навагрудскі дыспут... » (1616), у якой паказаны публічны паядынак з езуітамі 9 студзеня 1616 г. Даверам П. Кміты карыстаўся і рэктар Віленскай школы П. Сестранцэвіч, які выдаў у Любчы пахавальныя казанні і выпусціў вельмі важную ў ідэалагічных адносінах «Навуку пра таінствы» Кальвіна (1626) у сваім перакладзе.

Любчанская друкарня ў часы, калі ёю кіраваў П.Кміта, заставалася надзейнай і, па сутнасці, адзінай апорай пратэстантызму ў Вялікім княстве Літоўскім. Вядома, яе дзейнасць ідэйна падтрымлівалі і наваг фінансавалі магутныя Радзівілы і іншыя мецэнаты, але роля П. Кміты застаецца вельмі значнай. Як сведчыць выдавецкі рэпертуар любчанскага двара, П. Кміта праяўляў сапраўдную грамадзянскую незалежнасць і мужнасць, ведучы друкарню па абраным шляху. Ён выпусціў 47 друкаў, выкананых на высокім для таго часу тэхнічным узроўні.

Калі памёр П. Кміта, невядома. Апошні раз ён пакінуў сваё прозвішча на кнізе 1629 года. З 1632 года любчанскую прадукцыю падпісвае ўжо яго сын Ян Кміта. Праўда, раней, у 1631 г. на адным з кніжных тытулаў чытаецца такі тэкст: «Друкарня Кмітаў»[2]. Назва гэтая напэўна сведчыць, што прадпрыемствам кіравалі тады бацька з сынам сумесна.

За часы дзейнасці Я.Кміты (1632-1646) выдавецкая палітыка любчанскай друкарні прыкметна змянілася. Аслабіўся, у прыватнасці, яе гуманістычна-асветніцкі напрамак, знікаюць амаль з рэпертуару выданні свецкага характару. Друкуюцца пераважна пахавальныя казанні і літургічныя творы. Тлумачыцца гэта перш за ўсё зменамі ў грамадска-рэлігійным жыцці набірае сілу каталіцкі касцёл, шырыцца рух Контррэфармацыі. Вядома, Любчанская друкарня старалася і цяпер бараніць інтарэсы пратэстантызму, але рабіла гэта досыць памяркоўна, на вузкай рэлігійнай платформе.

Сярод актыўных аўтараў вылучаўся ў гэты час Б.Лабецкі, які ў 1635-1638 гг. выдае ў Любчы свае казанні. Самае значнае з іх мае назву «Анатомія ведаў або разбор і разгадка чалавечых сумненняў» (1638). Твор выходзіць за межы гэтага жанру і набывае характар

---

[1] Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. Tom I. Poznań. 1842, s. 164.
[2] Drukarze dawnej Polski, z. 5, s. 127.

усхваляванага філасофскага трактата. Па значнасці зместу і аб'ёму (цыкл з 23 казанняў, 425 стар. ) гэта самае буйнае дасягненне друкарні Я.Кміты.

Характэрна, што цяпер шырока выдаецца ў Любчы прапаведнік віленскага лютэранскага збора А.Шанфліскі. Лютэране і кальвіністы, гэтыя два крылы пратэстанцкага руху, узятыя ў асаду езуітамі, шукаюць зараз узаемнай згоды для барацьбы з супольным праціўнікам. А.Шанфліскі надрукаваў у 1632-1633 г. пяць казанняў вельмі розных па змесце, і жалобных, і ўрачыстасвяточных, у 1646 го дзе выпусціў цыкл казанняў асобным зборнікам. Выдаюць пахавальныя казанні ў часы Я. Кміты віленскія кальвіністы ГІ.Сестранцэвіч, С.Монвід, С.Тамашэўскі, Я.Астроўскі. Увогуле ж многія выданні Я.Кміты, відавочна, не знойдзены, і вядомыя сёння толькі 33 кнігі другога любчанскага друкара.

Мала захавалася звестак пра дзейнасць наступніка Я.Кміты ў Любчы Яна Ланге. Мала вядома і кніг, якія пры ім выдаваліся. Зрэшты, Я.Ланге напэўна не змог шмат выпусціць, што звязана з пагаршэннем пратэстанцкага лагера, якому па-ранейшаму служыў любчанскі друкарскі двор.

Я.Ланге пісаў вершы на лацінскай мове, быў лютэранінам. Мабыць, таму асноўным аўтарам у Любчанскай друкарні становіцца А.Шанфліскі. Ужо ў згаданым вышэй зборніку А.Шанфліскага 1646 года змешчаны вершы Я.Ланге, публікуюцца яны і ў другой кнізе А. Шанфліскага — «Малітвы Давіда... » (1648). Пазней выходзяць два буйныя прапаведніцкія творы гэтага аўтара. Неўзабаве А.Шанфліскі памёр, і любчанская друкарня выпусціла прысвечанае яму пахавальнае казанне Я.Маліны (1654).

У 50-я гады Я.Ланге пачынае, відаць, для паляпшэння спраў друкарні выдаваць каляндар-гадавік, які выходзіць чатыры гады — 1653-1656. Але прозвішча кіраўніка друкарні ёсць толькі на першым выпуску гадавіка ды яшчэ на адной кнізе — «Гадзіннік» (1653), падрыхтаванай кальвіністам М.Гляскоўскім.

Цяжкая эпідэмія 1655 года, а за ёю спустошальная вайна, што прайшлася праз Любчу, прывялі да знішчэння жыцця ў мястэчку. Перастала дзейнічаць і друкарня. Пакінула яна аднак глыбокі след у гісторыі грамадскай думкі і культуры Беларусі. Нельга не адзначыць шырокую папулярнасць любчанскіх друкаў, якія перакладаліся і распаўсюджваліся шляхам перапісвання, трапляючы такім чынам у Расію, Украіну, іншыя землі. Такая практыка цягнулася ў XVII і ў XVIII ст. Прыкладам можа быць рукапісная кніга «Лекарства домовыя» на 162 аркушах, спісаная ў 1719 годзе ў Расіі з любчанскага выдання

1617 ці 1622 гадоў і зарэгістраваная А.Радоскім. Ён цытуе з гэтага рукапісу спасылку на арыгінал, якая сведчыць, што арыгінал стварўся «во граде нареченном Любчю на печатном дворе Петра Блястуса Кмиты слуги сіятельнейшаго князя его милости господина Христофора Радивила, гетмана полнаго великого Княжества Литовскаго»[1].

[1] Родосский А. Описание 432-х рукописей... СПб, 1894, с. 357.

## У ПАРУ АСВЕТНІЦТВА

Шырокага размаху дасягае кнігадрук у нашым краі ў XVIII ст. На тэрыторыі Беларусі было ў гэты час 12 друкарняў, якія выпускалі прадукцыю на многіх мовах. У 2-ой палове XVIII заяўляюць пра сябе як пункты друку Слонім, Жыровічы, Навагрудак.

Першы вядомы слонімскі друк малітоўнік на лацінскай мове, выпушчаны ў 1777 г. у слонімскай дамініканскай друкарні. Праўда, на пазнейшых слонімскіх выданнях гэтага адраса ўжо няма. У 1778 г. выйшла на польскай і італьянскай мовах маральна-дыдактычная «Кніжка для моладзі», друкаваная таксама ў Слоніме. Гэтае выданне ўбачыла свет, пэўна, ужо ў друкарні Міхала Казіміра Агінскага, які, відаць, купіў яе ў дамініканаў і перавёў у свой палац. І даўнія навуковыя крыніцы[1], і пазнейшыя[2] сведчаць, што друкарня заснавана Агінскім у 1777 г. ці каля 1777 г. Агінскі, вядомы мецэнат, паэт, кампазітар, музыкант, быў стваральнікам прыдворнага музычнага тэатра ў Слоніме. І друкарня, якая забяспечвала галоўным чынам яго ўласныя культурна-мастацкія інтарэсы, выпускала лібрэта опер, што ставіліся на слонімскай сцэне. У прыватнасці, публікаваліся напэўна тут два такіх лібрэта «Стан саслоўяў» у 1781 г. і «Сілы свету», відаць, у 1782 г. Абапіраючыся на гэтыя факты і некаторыя іншыя дакументы, польскія даследчыкі лічаць[3], што прыдворная друкарня Агінскага магла дзейнічаць у 1777-1782 г. У 1974 г. А.Мальдзіс апублікаваў[4] новыя матэрыялы — назвы слонімскіх друкаў пазнейшага часу — 1791-1796 г. Гэтыя матэрыялы (30 выданняў) значна ўзбагачаюць наша ўяўленне пра гісторыю кнігадруку ў Слоніме. Аднак невядома, чыя друкарня дзейнічала тут у 90-я гады. А.Мальдзіс дапускае, што гэта магла быць уласнасць гетмана Агінскага. Вядома, такі буйны магнат, як Міхал Казімір Агінскі, які ў 70-80-я гады ператварыў глухі гарадок Слонім у еўрапейскі музычна-тэатральны цэнтр, мог доўгі час трымаць тут друкарню. Але ёсць аргументы, што абвяргаюць меркаванне аб прыналежнасці гэтага прадпрыемства Агінскаму ў 90-я гады. У прыватнасці, лібрэта опер, якія з поспехам ішлі на слонімскай сцэне, у спісе друкаў 90-х гадоў адсутнічаюць. Да таго ж выдатны музычны дзеяч у гэты час ужо знаходзіўся па-за межамі Слоніма, прынамсі, «у 1792-1793 г. закончыўся «слонімскі перыяд» у дзейнасці

---

[1] Бобровский П. Материалы для географии и статистики России... Ч. И, СПб, 1863, с. 866; Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich... Tom X. Warszawa. 1889, s. 825.
[2] Drukarze dawnej Polski, z. 5, s. 192.
[3] Тамсама, с. 192-193.
[4] Мальдзіс А. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн. , 1974, с. 149-150.

гетмана»[1]. І што яшчэ істотна, рэпертуар друкарні 90-х гадоў не вельмі стасуецца з зацікаўленнямі самога Агінскага. Кнігі, выпушчаныя на лацінскай, польскай, французскай, рускай мовах, надта стракатыя паводле зместу: тут літургічная літаратура, навукова-папулярныя работы, пахавальныя казанні, дапаможнікі для школы, слоўнікі. Так ці інакш, слонімскія друкі канца XVIII ст. нялёгка прыпісаць пэўнай друкарні ці асобе. З'яўленне ж іх — заканамерная з'ява таго часу, эпохі Асветніцтва.

У канцы XVIII ст. была вядома друкарня ў Жыровічах, хаця рэальныя сляды яе працы не захаваліся. Створана друкарня была мясцовымі базыльянамі, што з'явіліся ў мястэчку яшчэ ў 1613 г. Яны заснавалі кляштар і пазней пры ім філасофскабагаслоўскую школу, якая дзейнічала доўгі час. Відаць, з мэтай прапаганды уніяцтва стварылі базыльяне і друкарню, дзе выходзілі малітоўнікі-спеўнікі — «кантычкі». Некаторыя даследчыкі дапускаюць, што гэта быў малы варштат, прадукцыя якога задавальняла толькі ўнутрыманастырскія патрэбы. Але выказваецца і аўтарытэтная думка пра «шырока вядомыя жыровіцкія кантычкі, ужываныя скрозь на Літве»[2]. Тое, што гэтыя друкі да сённяшняга часу не знойдзены, можна тлумачыць рэпрэсіўнамі мерамі, якія прымае праваслаўная царква у адносінах да уніяцкай літаратуры. Пасля ліквідацыі уніі (1839 г.) пачалося масавае знішчэнне кніг уніяцкіх збораў і манастыроў. А.Мілавідаў піша: «Уніяцкія кнігі выбіраліся і першы час звозіліся ў Жыровіцкі манастыр, які служыў цэнтрам епархіяльнай управы і асветы. Там імі паліліся першапачаткова печы, але паколькі такое спальванне было марудным, кнігі раскрадаліся, а аднойчы ад іх на манастырскай кухні адбыўся пажар, то ў 1844 г. архіепіскап Іосіф (Сямашка А.П.) незадоўга да свайго ад'езду ў Пецярбург загадау вынесці іх са склада на пляцоўку перад званіцаю і спаліць... У 1852 г. мітрапаліт Іосіф самым строгім чынам прадпісаў даставіць у Літоўскую кансісторыю (у Вільні) усе уніяцкія кнігі, якія і былі спалены ў прысутнасці самога Іосіфа»[3]. Усяго на працягу 1852-1855 гг. было спалена каля 2000 кніг.

У сярэдзіне XVIII ст. пры езуіцкай калегіі ў Навагрудку працягвае сваю дзейнасць школьны тэатр. Ставіліся тут п'есы мясцовых, замежных аўтараў. Езуіты, якія рыхтавалі кваліфікаваныя кадры прапаведнікаў, надавалі вялікае значэнне тэатру, дзе набываліся навыкі публічных выступаў, шліфавалася майстэрства дэкламацыі.

---

[1] Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. Мн. , 1993, с. 102.
[2] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska..., t. 3, s. 686.
[3] Миловидов А. Судьба русской книги в Северо-Западном крае в связи с его культурной историей. СПб, 1903, с. 24-25.

Не выпадкова, што і школьныя драмы выдаваліся тут, у друкарні, якая належала езуітам і абслугоўвала іх патрэбы. У прыватнасці, вядома, што ў Навагрудку летам 1761 года пастаўлена французская дыдактычная драма пра Даніеля, выдадзеная[1] ў гэтым жа, пэўна, годзе з прысвячэннем Я.Сухадольскаму. Прысвячэнне падпісаў мясцовы выкладчык паэтыкі і рыторыкі М.Ханецкі, які быў хутчэй за ўсё, перакладчыкам твора на польскую мову. Характэрна, што ў тым жа, 1761 годзе з'яўляецца ў Навагрудку яшчэ адзін друк выкладчык філасофіі мясцовай калегіі С.Шадурскі выдае на лацінскай мове сваю працу «Філасофскія вызначэнні агульнай фізікі, выказаныя публічна аўтарам»[2]. Напэўна, гэтымі двума друкамі не абмяжоўваецца прадукцыя навагрудскага варштата, але цяжка вызначыць іх колькасць, як і перыяд дзейнасці тутэйшай друкарні. Зрэшты ёсць меркаванне, што яе ў Навагрудку ў гэты час увогуле не было.[3]

У 2-й палове XVIII ст. шырока разгортваецца друкарская справа ў Гродне. У гэты час тут выдаюць свае кнігі стараабрадцы праціўнікі царкоўнай рэформы, праведзенай ў Расіі ў сярэдзіне XVII ст. Патрыярхам Ніканам. Яны жорстка праследаваліся афіцыйнай праваслаўнай царквой і даўно ўжо шукалі прытулку за межамі Расійскай імперыі, у тым ліку і ў Беларусі. Тут стараабрадцы пачынаюць выдаваць сваю рэлігійную літаратуру з пачатку XVIII ст., паступова пашыраючы геаграфію і маштабы выдавецкай дзейнасці. Вядомы даследчык усходнеславянскага друку А Зёрнава лічыць, што ў Гродне яны сталі выдаваць сваю прадукцыю з 1781 года[4], абапіраючыся, магчыма, на той факт, што менавіта з гэтага часу пачынаецца ў горадзе інтэнсіўная друкарская праца стараверау З зарэгістраваных даследчыкамі гродзенскіх друкаў (кірыліцай) XVIII ст. большасць сапраўды прыпадае на 80-я гады. Праўда, досыць сістэматычна выходзяць тут кнігі прыхільнікаў старой веры і ў 90-я гады. Стараабрадцы выпускаюць у Гродне сваю літаратуру, не выпраўленую афіцыйнай царквой, у асноўным перадрукоўваючы праваслаўныя кнігі, выдадзеныя яшчэ да рэформы Нікана маскоўскімі і кіеўскімі друкарнямі. На тое, што гэта перадрукі і што выпускаліся яны менавіта стараабрадцамі, звярталі ўвагу многія кнігазнаўцы, — ад В.Сопікава да сучасных аўтараў. Паказальна, што В.Сопікаў адносіў да прадукцыі стараабрадцаў побач з іншымі гродзенскімі друкамі 90-х гадоў і збор-

---

[1] Pamiętnik literacki. 1952. z. 1-2, s. 301.
[2] Гл. Бирало А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII-сер. XVIII в. в. Мн., 1971, с. 173.
[3] Ziemia Lidska. 1939. №6, s. 100.
[4] 400 лет русского книгопечатания. М., 1964, с. 230.

нік «Цветник священноинока Дорофея», выдадзены ў 1796 г.[1] Гэта быў год, калі Гродна ў выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай было далучана да Расіі. Але ўжо кнігу «Павучанні Іаана Златавуста» (1798), апошнюю з выпушчаных у Гродне кірыліцкім друкам, не залічвае да вытворчасці стараабрадцаў[2]. І гэта зразумела: яны наўрад ці маглі ажыццявіць выданне ў духу сваёй веры ў новых рэлігійна-палітычных умовах.

Разам з тым, і В.Сопікаў, і іншыя даследчыкі, у тым ліку і сучасныя, выказваюць сумненне, ці друкавалі ў Гродне наогул свае кнігі стараабрадцы, ці была тут друкарня з кірыліцкім шрыфтам. Зазначаецца, быццам стараабрадцы ў выходных звестках кніг называлі Гродна, як і некаторыя іншыя гарады, дзеля канспірацыі, каб схаваць сапраўднае месцазнаходжанне ўласных друкаў. Вядома, такое меркаванне выключыць нельга. Але няма дастатковай падставы і прыняць яго. Справа гэта складаная яшчэ і таму, што кірыліцкія друкі з'явіліся ў горадзе над Нёманам задоўга да 1781 года, з якога, быццам бы, пачынаецца тут праца стравераў на кніжнай ніве. В.Сопікаў прыпісвае ім друк «Вера праваслаўная...», выкананы ў Гродне яшчэ ў 1735 годзе[3]. Гэтым жа годам датуецца яшчэ адна іх кніга, зарэгістраваная ў свой час М. Вішнеўскім — зборнік казанняў ігумена кіеўскага Мікалаеўскага кляштара А. Радзівілоўскага «Вянец... з пропаведзяў нядзельных»[4]. Выданне гэта, як сцвярджае М. Вішнеўскі, было ўпершыню выпушчана стараабрадцамі ў Кіеве ў 1694 г., а ў 1735 г. перадрукавана ў Гродне. В. Сопікаў далучае да традыцыі стараабрадцаў «Павучанні Дарафея», друкаваныя ў Гродне ў 1767 г. Праз год гэтая кніга зноў выйшла пад гродзенскім адрасам. Але гэта яшчэ не ўсе кірыліцкія выданні, што рана нарадзіліся ў наднёманскім горадзе. А.Мілавідаў улічвае друк 1686 года «Служба ў вялікую суботу»[5], выпушчаны ў Гродне. Крыху пазней, у 1691 г. тут жа выйшла «Кірылава кніга», якую занатаваў У.Барвінок[6]. Так названы тут выдатны памфлет С.Зізанія «Казанне святога Кірылы», перавыдадзены ў Гродне пад гэтай, новай назвай у 1786 і 1791 гг.

Кідаецца ў вочы дзіўная бессістэмнасць з'яўлення гэтых друкаў на працягу 2-ой паловы XVII перш. паловы XVIII ст. І можна дапускаць, што і тут праявіла сябе канспірацыя стравераў, якія давалі ўяўныя звесткі як пра месца, так і, магчыма, пра час выдання сваіх кніг.

---

[1] Сопиков В. Опыт российской библиографии... Ч, I. СПб, 1813, с. 261.
[2] Тамсама, с. 176.
[3] Тамсама, с. 71.
[4] Wiszniewski M. Historya literatury polskiej. T. VIII. Kraków, 1851, s. 436.
[5] Миловидов А. Старопечатные славяно-русские издания, вышедшие из западнорусских типографий XVI-XVIII вв. М., 1908, с. 21.
[6] Бібліологичні вісти. 1924. Січень-бэрэзэнь, с. 135.

Такая версія напрошваецца і таму, што пра друкарню, якая працавала ў гэты час у Гродне, нічога не вядома. Безумоўна, кнігі старабрадцаў у Гродне выходзілі. Скарэй за ўсё толькі некаторыя з іх з'явіліся пад фіктыўным адрасам. Астатнія выпускала, пэўна, каралеўская друкарня. Хаця Я. Арлоўскі прытрымліваецца думкі, што «у Гродне існавала руская друкарня»[1], якая выпускала заказы старабрадцаў. З гэтым меркаваннем цяжка пагадзіцца. Больш верагодна, што існавалі ў Гродне невялікія варштаты, шго дзейнічалі ў розны час і былі засакрэчаны стараабрадцамі.

У гісторыі гродзенскага друку таго перыяду ёсць яшчэ загадкавае выданне. У 1679 годзе тут выпушчана невялікай брашурай (44 аркушы) на польскай мове «Канстытуцыя сейму...»[2] Рэчы Паспалітай, які перанёс у канцы 1678 годзе свае пасяджэнні ў Гродна. Выданне выйшла ў «друкарні Мінарытау», па-іншаму францысканаў, якія мелі ў Гродне свой кляштар, заснаваны ў 1635 г. Аднак іншыя публікацыі гэтай друкарні нідзе не зафіксаваны, і гэта дае падставу думаць, ці была ўвогуле такая друкарня. Польскія даследчыкі[3] выказваюць меркаванне, што «Канстытуцыя» была адбіта, магчыма не гродзенскімі, а віленскімі францысканамі, а Гродна як месца выдання названа з увагі да сейму. Хаця гэтая версія выглядае малагрунтоўнай.

Выдатную культурна-асветную ролю адыграла у тагачасным жыцці г.зв. каралеўская (дзяржаўная) друкарня, што працавала ў Гродне, пачынаючы з сярэдзіны 70-х гадоў больш за два дзесяцігоддзі і выпусціла каля 100 кніг (А.Мальдзіс прыводзіць зводны спіс друкаў 94 назвы, якія выйшлі пад адрасам каралеўскай друкарні[4]). Заснаваў яе гродзенскі стараста Антоні Тызенгаўз, які зрабіў вельмі многа для развіцця ў Гродне прамысловасці, гандлю, навукі і мастацтваў. Па яго ініцыятыве была створана тут словалітня, што забяспечвала шрыфтамі не толькі мясцовы варштат, а і друкарні Вільні і Варшавы. Словалітня гэта паступова ўдасканальвалася і праіснавала да сярэдзіны XIX ст.

Даследчыкі па-рознаму вызначаюць час дзейнасці каралеўскай друкарні. Пэўна, мае рацыю А.Мальдзіс, называючы даты 1775-1802[5]. Хаця выказваецца думка, што друкарня працавала ў 1781-1795 гг.[6] Праўда, у такім выпадку трэба прызнаць, што А.Тызенгаўз не мае да яе дачынення, бо яго ў гэты час у горадзе ўжо не было.

---

[1] Орловский Е. Гродненская старина. Ч. I. Гродно, 1910, с. 170-171.
[2] Budzyk K. Bibliografia konstytucyj sejmowych XVII w. wPolsce. Wroclaw. 1951, s. 147.
[3] Drukarze dawnej Polski, z. 5, s. 89.
[4] Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии, с. 137-141.
[5] Тамсама, с. 131.
[6] Кніга Беларусі. 1517-1917. Зводны каталог. Мн. , 1986, с. 19.

Размяшчалася друкарня ў будынку інтэрната былой езуіцкай калегіі, і гэтая акалічнасць давала падставу даследчыкам сцвярджаць, быццам Тызенгаўз толькі аднавіў варштат, які застаўся ў горадзе пасля закрыцця ордэна езуітаў (1773). Але гродзенскія езуіты сваей друкарні тут не мелі, прадукцыя яе нікому не сустракалася. Найбольш верагодна, што для прадпрыемства ў Гродне Тызенгаўз змог выкарыстаць матэрыялы віленскай паезуіцкай друкарні.

Зраземела, што каралеўская друкарня павінна была ў першую чаргу выконваць разнастайныя афіцыйныя заказы. І яна рэгулярна выдавала дзяржаўныя загады, ноты, праекты, прамовы паслоў сейма. Толькі за 1793 год, у сувязі з пасяджэннем сейма ў Гродне, было выдадзена 235 дакументаў такога тыпу. Прычым выходзілі яны звычайна без абазначэння месца і года выдання. Выпускала, вядома, гэтае прадпрыемства і шматлікія дробныя друкі для практычных патрэб, звязаных з гаспадарча-эканамічнымі і культурнымі мерапрыемствамі Тызенгаўза. Гэта аб'явы, рэкламныя праспекты, афішы, бухгалтарскія кнігі, квітанцыі, бланкі і інш.

Разам з тым у выдавецкай практыцы каралеўскай друкарні ярка выявілася ідэалогія Асветніцтва. Асноўная ўвага надавалася навуковай, навучальнай, папулярна-пазнавальнай, мастацкай літаратуры, прычым тым аўтарам, якія паслядоўна падтрымлівалі асветніцкія погляды. Для прапаганды радыкальных ідэй выкарыстоўваўся і традыцыйныг жанр урачыстага казання. Так, выдадзена было шэсць казанняў (1779-1790) вядомага прапаведніка М.Карповіча, які гнеўна выкрываў паразітызм і бесчалавечнасць магнатаў, патрабаваў роўнасці паміж людзьмі.[1]

Прыкметнай постаццю вучонага-асветніка быў у Гродне Жан Жылібер, кіраўнік Гродзенскай медыцынскай акадэміі, вядомы прыродазнавец. У 1781 г. каралеўская друкарня выпусціла на лацінскай мове тры тамы яго працы «Флора Літвы...», праз год у Вільні выйшлі 4-5 тамы гэтага даследавання.

Выдаюцца папулярныя кнігі па гісторыі Г.Барэцкага («Кароткі звод карфагенскай і егіпецкай гісторыі», 1776), Ф.Іодкі («Ваенная гісторыя, што сцісла перадае першую вайну Прускую і даўнюю Баварскую», 1779). Паказальныя і такія літаратурна-мастацкія творы, як філасофская аповесць Вальтэра «Задзіг» (1776), камедыя Мальера «Лекар паняволі» (1779), «Апісанне падарожжа з Варшавы ў Білгарай» І.Красіцкага (1783), аутабіяграфічная элегія Ф.Карпінскага «Вяртанне з Варшавы ў вёску» (1784), «Паўкапы баек» А.Лаўрыновіча (1789),

---

[1] Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980, с. 235.

«Баечкі і забавы прозай і вершам» С.Кубліцкага (1785) і інш. На хвалі Асветніцтва з'яўляюцца пераклады тых заходнееўрапейскіх твораў, у якіх увага да інтымных перажыванняў герояў спалучаецца з авантурна-прыгодніцкім сюжэтам. Гэта перакладзеныя І.Быкоўскім з французскіх аўтараў раманы «Какетка ці прыгоды Ірысы» (1787), «Эма і Лемазаў» (1787). Гэта пераробкі ўсходніх сюжэтаў А.Галанда — «Птушка, якая размаўляе, і дрэва, якое спявае» (1794), «Падарожжа, пачатае дзеля дзявочага кахання» (1796). У тым жа рэчышчы — «Авантура кавалера па імені Фартунат... » І.Міцкевіча (1782), «Звесткі аб дамах і каханні, якое рэдка бывае сапраўды трывалым» (1788). Арганічным ў прадукцыі каралеўскай друкарні было таксама выданне баявога патрыятычнага верша Я. Ясінскага «Аб сталасці. Да польскіх выгнаннікаў» (1793), напісанага ў стылі палітычнай адозвы.

Сярод культурна-асветных пачынаў А. Тызенгаўза не апошняе месца займае арганізацыя ў Гродне перыядычнага друку. З 1776 года выходзіць тут першы на тэрыторыі Беларусі перыёдык — «Gazeta Grodzieńska» (калі не лічыць нясвіжскай газеты[1] Радзівілаў, выпуск якой у сярэдзіне XVIII ст., відаць, не быў ажыццёўлены). Газета выпускалася на 2-х старонках два разы на тыдзень і паведамляла пра значныя падзеі ў Рэчы Паспалітай і за мяжой. Яна крытычна асвятляла грамадска-палітычныя праблемы і не раз выклікала непрыхільную рэакцыю каралеўскай улады. У такой накіраванасці выдання добра бачыцца незалежная асветніцкая пазіцыя Тызенгаўза, які надаваў газеце вялікае значэнне ў ідэйна-духоўным жыцці краю. Нямала тут было фактаў і з мясцовага жыцця. Газета паведамляла пра канцэртныя выступы ў Гродне, пра публічныя экзамены ў ваяводскай школе. Змяшчала аб'явы, якія інфармавалі аб выхадзе новых кніг, продажы маёмасці, уцёках прыгонных і інш. Дзейнічала яна да канца 1780 г., а магчыма і да 1783 г.

Яшчэ некалькі перыёдыкаў звязана нядоўгі час з Гроднам у гэты перыяд. У 1796-1797 гг. (з 3.Х па 1.1V) выдавалася тут два разы ў тыдзень газета «Kurier Litewski», пераведзеная затым у Вільню. У 1792 годзе выходзілі «Wiadomości Grodzieńskie» — орган Таргавіцкай канфедэрацыі. У тым жа годзе, як мяркуе В.Грыцкевіч[2], пачаў выходзіць у Гродне медыцынскі тыднёвік «Pismo Tygodniowe Medyczne», але нумары яго не вядомыя, і, хутчэй за ўсё, была толькі задума такога выдання, якое па нейкіх прычынах не ажыццявілася. У 1776-1800 г. выдаваўся ў Гродне штогоднік «Kalendarz Gospodarski...». Складаль-

---

[1] Гл. Baliński M.. Lipiński T. Starożytna Polska... T. IV. Warszawa. 1886, s. 518.
[2] Полымя. 1969, №5, с. 207.

нікам гэтай кніжкі-календара быў Т.Дубіткоўскі, які на яе старонках рэзка крытыкаваў сярэдневечнае цемрашальства, папулярызаваў здабыткі навукі. Акрамя традыцыйнай каляндарнай інфармацыі (паводле старога і новага стыляў), змяшчаліся тут матэрыялы пра тагачаснае палітычнае жыццё, таксама гаспадарчыя, бытавыя, медыцынскія парады, звесткі на метэаралагічныя, этнаграфічныя, гістарычныя тэмы, факты з мясцовых падзей, статыстыка.

Гродзенская каралеўская друкарня, якая выпускала і перыядычныя выданні, дзейнічала на поўную нагрузку і пасля таго, як не стала ў Гродне А.Тызенгаўза. Аўтары даследавання «Друкары даўняй Польшчы... »[1] лічаць, што ў 1788 г. друкарня перайшла ў рукі Б.Рома, які з 1792 года стаў падпісваць друкі сваім прозвішчам. Былі гэта пераважна выданні на яўрэйскай мове, і адсюль робіцца выснова, што Б.Ром, мабыць, набыў частку каралеўскай друкарні і стаў праводзіць сваю выдавецкую палітыку. Сучасная яўрэйская крыніца сцвярджае, што Б.Ром «атрымаў ад расійскіх уладаў прывілей на адкрыццё яўрэйскай друкарні ў Гродне»[2], і першым выданнем яго было, відаць, «Завяшчанне знакамітага прапаведніка», гродзенскага рабіна Аляксандра Зіскінда, выпушчанае ў 1791 г. А ў 1799 г. Б.Ром перавёў сваё прадпрыемства ў Вільню. Ёсць падставы лічыць, што ў Гродне дзейнічау яшчэ адзін самастойны выдавец — Ян Ясенскі, які працаваў тут на кніжнай ніве, відаць, у 1794-1796 гадах. А.Мальдзіс мяркуе, што Я.Ясенскі быў наступнікам А.Тызенгаўза ў каралеўскай друкарні, а Б.Ром меў уласны варштат. Між іншым А.Мальдзіс паведамляе пра цікавы друк «Ахвяра Мінервы» (1798), «міфалагічна-гістарычную трагедыю», якую напісаў і выдаў М.Тамашэўскі. Даследчык трымаецца думкі, што тут мы маем справу з асобнай гродзенскай друкарня й таго перыяду.[3]

Нестабільнасць становішча ў гродзенскім друку 90-х гадоў, яго мазаічнасць, белыя плямы усё гэта тлумачыцца ў значнай меры складанасцю грамадскіх абставін, пераходнасцю ідэйна-налітычнай сітуацыі. У 1793 г. гродзенскі сейм зацвердзіў 2-гі падзел Рэчы Паспалітай, з 1795 г. горад увайшоў у склад царскай Расіі і быў пераўтвораны ў павятовы цэнтр. Гродзенская каралеўская друкарня траціць сваю дзяржаўную ролю і ў 2-й палове 90-х гадоў выпускае ўсяго некалькі кніг. У палатку 1800-х гадоў яна спыняе сваё існаванне.

На працягу XVIII ст. друкарні Гродзеншчыны выпускалі кнігі на лацінскай, польскай, старaславянскай, рускай, яўрэйскай, нямецкай,

[1] Drukarze dawnej Polski, z. 5, s. 222-223.
[2] Краткая еврейская энциклопедия. Т. 7. Иерусалим. 1994, с. 278.
[3] Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии, с. 133.

французскай, італьянскай мовах. Выданні на беларускай мове выходзяць у гэты час за межамі гэтага рэгіёну — у уніяцкіх пераважна друкарнях (Вільня, Супрасль і інш.).

## У СКЛАДЗЕ РАСІІ

У 1803 годзе адкрывае сваё прыватнае прадпрыемства сын даўняга гродзенскага словалітчыка Зымель (Нахімовіч), які выпускаў кнігі на яўрэйскай і польскай мовах. Друкарня яго праіснавала да 1838 года, калі была канфіскавана ў сувязі з забаронай губернскага праўлення выдаваць рэлігійную літаратуру на яўрэйскай мове.

У 1820 г. адкрыта гродзенская губернская друкарня. Пазней паяўляецца некалькі дробных прыватных варштатаў. У сярэдзіне 60-х гадоў працуюць у Гродне пяць друкарняў. Галоўнай заставалася губернская, прадукцыя якой, зрэшты, была досыць аднастайнай. Адсюль выходзіла аператыўная інфармацыя ўрадавых і губернскіх органаў — розныя пастановы, цыркуляры і інш. Тут друкавалася і газета «Гродненские губернские ведомости», якая выходзіла з 1838 года.

Газета была шматпалоснай, малога фармату, выпускалася раз у тыдзень і распаўсюджвалася толькі па абавязковай падпісцы. Наклад яе налічваў спачатку 120 экз. Затым наклад павялічваецца, з 1891 года газета выходзіць 2 разы ў тыдзень. «Ведомости» выдаваліся губернскім праўленнем пад наглядам віцэ-губернатара і заўсёды заставаліся афіцыйным друкаваным органам, які меў сваю канкрэтную і практычную задачу паведамляць пра распараджэнні ўрада і мясцовай адміністрацыі. Не толькі матэрыялы крытычнага кірунку, нават гумар не дапускаўся на старонкі газеты. Праўда, у «Ведомостях» была неафіцыйная частка, дзе публікаваліся матэрыялы на краязнаўчыя, школьныя, сельскагаспадарчыя тэмы, апісваліся розныя здарэнні, з'явы прыроды. Асабліва каштоўныя тут этнаграфічныя замалёўкі з мясцовага народнага жыцця, тэксты беларускага фальклору, рэцэнзіі на тэатральныя спектаклі, канцэрты, факты з гісторыі Гродзеншчыны, педагагічныя назіранні, статыстычныя звесткі разнастайнага характару. Аднак неафіцыйная частка выходзіла нерэгулярна, з перапынкамі. Так, у 1838-1847, 1855-1858 г. яе увогуле не было. Былі «дадаткі», дзе змяшчаліся цэны на «правіянт», падзённую плату рабочым, «сыскныя артикулы», спісы па выбарах гласных у гарадскую думу і інш. У 1853-1855, 1858-1864 г. неафіцыйная частка практыкуецца ў некаторых нумарах газеты і толькі з 1865 г. выходзіць рэгулярна. Як выданне паслядоўна казённага напрамку, якое павінна было стаяць на варце манархічнага рэжыму, «Гродненские губернские ведомости» не мелі папулярнасці ў чытача.

У сярэдзіне XIX ст. з'яўляюцца ў царскай Расіі перыядычныя выданні прыкладнога кірунку, якія выконвалі рэкламна-інфармацыйныя задачы і абслугоўвалі інтарэсы прыватных прадпрыемстваў. Да

такіх выданняў трэба аднесці гродзенскі перыёдык «Ondyna Druskienickich Źródeł» — часопіс «для здаровых і хворых у час іх чатырохмесячнага прабывання на мінеральных водах» у Друскеніках. Выходзіў на працягу трох гадоў (1844-1846) перыядычнасцю 8 «сшыткаў» у год (выдавец К.Вольфганг), асобная кніжка-сшытак змяшчала ад 38 да 63 старонак. Выданне не мела дакладнага адрасата і было разлічана на масавыя густы чытача, які бавіў час «на водах». Таму часопіс практыкаваў сумесь самых розных па змесце і жанру матэрыялаў. Змяшчаліся вершы, апавяданні, эсэ, беларускія і літоўскія народныя легенды, абрады, папулярныя публікацыі на гістарычныя тэмы, замалёўкі здарэнняў з тутэйшых мясцін, уражанні ад экскурсій па ваколіцах Друскенік і Гродна і інш. Тут друкаваліся аўтары, што жылі ў Беларусі, найперш на Гродзеншчыне. Часта выступаў з гістарычна-краязнаўчымі матэрыяламі Т.Нарбут, публікаваліся «песенькі» Я.Чачота, проза П.Янкоўскага, гумарыстычныя творы Л.Кандратовіча (Сыракомлі), пераклады Г.Гюнтар (Пузыні).

Выдатным перыядычным выданнем, звязаным з Гродзеншчынай, была ў XIX ст. «Мужыцкая праўда» — першая газета на беларускай мове (выйшла 7 нумароў у 1862-1863 г.). Стварэнне такой газеты дыктавалася надзённымі палітычнымі задачамі часу. Арганізатар яе Кастусь Каліноўскі, фактычны кіраўнік у Беларусі і Літве паўстання супраць царызму ў 1863-64 г., стараўся ўзмадніць садыяльную скіраванасць гэтай нацыянальна-вызваленчай вайны, прыцягнуць на свой бок сялянскія масы. Ім і былі адрасаваны палымяныя словы рэвалюцыйнай агітацыі. Таямнічныя «лятучыя лісткі» (А.Герцэн), у якіх раскрывалася антынародная палітыка самаўладства, драпежніцкая сутнасць рэкрутчыны, рэформы 1861 года, кпікалі на бой з царызмам. Газета выходзіла прыблізна раз у месяц накладам каля тысячы экземпляраў і шырока распаўсюджвалася па тэрыторыі Беларусі, Літвы, Латвіі. Аўтарам і асноўным рэдактарам быў К.Каліноўскі. У выданні газеты бралі ўдзел яго паплечнікі В.Урублеўскі, Ф.Ражанскі і, па некоторых звестках, С.Сангін. «Мужыцкая праўда» выпускалася дзесьці на Гродзеншчыне, у падпольнай друкарні, якая павінна' была добра канспіравацца і таму, відаць, мяняла сваё месцазнаходжанне. Даследчыкі выказваюць думку, што была не адна такая друкарня, бо некаторыя нумары газеты набіраліся розным шрыфтам. Газета пакінула глыбокі след у нацыянальнай свядомасці народу, зрабіла вялікі ўплыў на развіццё перадавых грамадскіх ідэй, на станаўленне беларускай літаратуры ў XIX ст.

Ва ўмовах жорсткай рэакцыі, якая наступіла пасля паўстання 1863-64 гг., не магло быць і гаворкі пра развіцце мясцовай прэсы,

тым больш пра стварэнне якіх-небудзь выданняў радыкальнага кірунку. Пазней, у 1882 г. робіцца спроба разгарнуць у Гродне выпуск газеты гандлёва-эканамічнага профілю, які дыктаваўся патрэбамі прамысловай вытворчасці. З Коўна была пераведзена сюды (згодна санкцыі галоўнага ўпраўлення па справах друку) прыватная газета М.Вульферта «Торговый вестник Западного края». Выходзіла яна тры разы ў тыдзень і старалася даць шырокую інфармацыю пра эканамічнае жыццё заходніх губерняў імперыі. Публікаваліся тут разнастайныя гандлёвыя бюлетэні, спісы прамысловых прадпрыемстваў, звесткі пра арэндныя і іншыя цэны, матэрыялы пра сельскагаспадарчую і фабрычную вытворчасць, аб'явы. Перадрукоўвалася самая шырокая эканамічная інфармацыя. Траплялі сюды нават апавяданні рускіх і замежных аўтараў. Але газета доўга пражыць не змагла. У Коўне, дзе яна выходзіла з палатку года, умовы былі, відаць, неспрыяльнымі, і выдавец-рэдактар перавёў яе ў сакавіку ў Гродна. Аднак з 10 красавіка газета перастала выходзіць. У пачатку жніўня М.Вульферт перадае[1] яе выданне Я.Памяранскаму (гарадскі галава). З 18 жніўня аднаўляецца выпуск газеты, але пратрымалася яна толькі да канца года. Пашкодзілі выдаўцам, відаць, сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці.

У першай палове XIX ст. кніжную прадукцыю выпускалі пераважна прыватныя друкарні, у першыя дзесяцігоддзі — найбольш на лацінскай, польскай, яўрэйскай мовах, затым на — на рускай. Найбольш выходзіла рэлігійнай літаратуры. Разам з тым выпускаліся такія салідныя свецкія выданні, як «Пачатковая навука аб правілах найбольш характэрных прапорцый, якія ўдасканальваюць малюнак» Г.Эйманта (1802), «Гутаркі Платона са сваімі вучнямі» Ф.Карпінскага (1802), «Курс маралі ў пытаннях і адказах... » Я.Багушэўскага (1808), «Кароткі нарыс першапачаткаў літоўскага народу» Ю.Нарбута (1818), які, дарэчы, мясцовыя ўлады стараліся не дапусціць у друк, «Новы руска-польскі буквар» (1829), «Узоры рускай, польскай, французскай і нямецкай каліграфіі» (1848), зборнікі мастацкіх твораў тутэйшых аўтараў.

З 1857 года губернскі статыстычны камітэт пачынае выпускаць «Памятную книжку Гродненской губернии», якая выходзіла і пад назвай «Адрес-календарь и справочная книжка Гродненской губернии» і інш. Акрамя перспектыўнай каляндарнай інфармацыі, тут змяшчаліся звесткі пра ўсе ўстановы, пасады і асоб, якія іх займалі ў губерні. Прыводзіўся расклад руху цягнікоў, работы паштовых кан-

[1] Нац. арх. РБ, г. Гродна. Ф. 2, воп. 19, адз.х. 64, с. 29. 42

тор, даты кірмашоў будучага года. Дзякуючы паўнаце і канкрэтнасці інфармацыі, гэты адміністрацыйны даведнік захоўвае і сёння значэнне вельмі важнай крыніцы пра той час. У «Памятных книжках» друкаваліся, акрамя таго, краязнаўчыя артыкулы на гістарычныя, этнаграфічныя, педагагічныя тэмы. Гадавік гэты выдаваўся рэгулярна да 1915 года (не выйшаў толькі на 1862, 1863 і 1868 гады). Прычым аб'ём яго, паўната ахопу фактаў паступова павялічваліся.

Да гэтага выдання своеасабліва прымыкае зборнік «Обзоры Гродненской губернии...», які меў ужо рэтраспектыўны кірунак — падагульняў дадзеныя за мінулы год. Змяшчаліся звесткі ў розных галінах эканамічнага, дэмаграфічнага, адміністрацыйна-юрыдычнага жыцця, добраўнарадкавання, медыцынскага абслугоўвання, асветы і інш. Тут шырока практыкаваліся статыстычныя табліцы, якія паступова вылучаліся ў дадаткі, што змяшчаліся ў канцы даведніка. Штогоднік «Обзор...» выходзіў з 1879 на 1914 год (прапушчаны толькі 1881, 1882, 1886 гады) і з'яўляецца таксама каштоўнай крыніцай пра тагачаснае жыццё Гродзеншчыны.

З кніжных выданняў, што выйшлі ў 2-й палове XIX ст., заслугоўваюць увагі работы Я.Радзішэўскага «Гістарычнае апісанне горада Слоніма» (1860), П.Баброўскага «Законы руху народанасельніцтва Гродзенскай губерні ў 15-гадовы перыяд: нараджальнасць, шлюбы, смяротнасць» (1860) і «Гістарычныя звесткі пра гарады Гродзенскай губерні» (1861), А.Буцькевіча «Гутаркі ліцьвінаў на сельскагаспадарчыя тэмы» (1861), М.Дзмітрыева «Вопыт збірання песень і казак сялян Паўночна-Заходняга краю» (1868), зборнік «Некалькі звестак пра стан сельскай гаспадаркі ў Гродзенскай губерні» (1872).

Значна пашыраецца выданне кніг у 80-90-я гады. Акрамя шматлікіх справаздач розных ведамстваў і ўстаноў, юрыдычных інструкцый, статыстыкі, выходзяць навукова-папулярныя, навучальныя, мастацкія кнігі. У прыватнасці, выдаюцца зараз у Гродне цікавыя гістарычна-краязнаўчыя працы Я.Арлоўскага «Нарыс гісторыі горада Гродна» (1889), «М.Свіслач-Ваўкавыская» (1895), «Да гісторыі народнай адукацыі Гродзенскай губерні» (1899), таксама М.Мілакоўскага «Апісанне горада Слоніма» (1891), І.Раманоўскага «Становішча горада Слоніма ў Літоўскай дзяржаве» (1895) і «Мінулае з жыцця горада Слоніма» (1898), А.Штрытара «Тапаграфічныя звесткі пра гарадзішчы і курганы ў Гродзенскай губерні» (1889), гістарычныя нарысы Л.Паеўскага. Каштоўнасці беларускага народнага жыцця засведчылі этнаграфічныя даследаванні М. Доўнар-Запольскага «Значэнне этнаграфічнага вывучэння Гродзенскай губерні»(1893) і «Матывы вясельных песень пінчукоў» (1893), А. Багдановіча «Пра

паншчыну» (1894) і «Перажыткі старажытнага светаўспрымання ў беларусаў» (1895). Выпусціў свае лінгвістычныя працы Е. Раманаў «Падручнік рускай граматыкі» (1895), «Кароткая этымалогія царкоўна-славянскай мовы» (1895).

Заслугоўвае ўвагі такое выдавецкае пачынанне гэтага перыяду, як выпуск рознага тыпу каталогаў. У прыватнасці, выйшлі «Каталог рускім і замежным кнігам Гродзенскай публічнай бібліятэкі па аддзелах» (1895), складзены А.Багдановічам, «Каталог бібліятэкі для чытання І.Н.Тракяніцкага ў г. Гродна» (1898), рэкламна-гандлёвы каталог «Цэнтральны музычны магазін» (1898).

Асобнымі выданнямі выходзяць агляды А.Вышаслаўцава, прысвечаныя развіццю пачатковай адукацыі на Гродзеншчыне, грунтоўныя статыстычныя даследаванні П.Дзікава пра лясы, землеўладанні ў Гродзенскай губерні. Цікавыя абагульняльныя працы Г.Аношкі «Кароткі фізічна-геаграфічны нарыс Гродзенскай губерні» (1893), К.Бірулі «Кароткае апісанне гродзенскай губерні. Геаграфічнае становішча і межы...» (1897). Большасць кніжак 2-й паловы XIX ст. выходзяць невялікім аб'ёмам, паводле тыпу выдання гэта хутчэй брашуры.

Пасля паўстання 1830-31 г. і асабліва з сярэдзіны 60-х г. (зноў жа пасля паўстання) царскія ўлады рашуча абмяжоўваюць афіцыйнае ўжыванне польскай мовы. Паслядоўна і жорстка праследуецца беларускі друк. Толькі адна кніга на беларускай мове выдадзена ў Гродне ў XIX ст. Гэта папулярная ананімная паэма «Тарас на Парнасе», выпушчаная ў 1896 г. Кніга, перыёдыка, выдавецкая справа былі для ўлад адным з асноўных сродкаў прапаганды вялікадзяржаўнай палітыкі, якая пазбаўляла мясцовае насельніцтва любых магчымасцяў нацыянальнага самавыяўлення.

## ЭПОХА ЎЗДЫМУ

Новы этап у развіцці друку на Гродзеншчыне складваецца ў пачатку XX ст. Бурны рост вызваленчага руху, масавы ўздым грамадскай самасвядомасці, інтэлектуальныя імкненні маладога пакалення ўплывалі на пашырэнне перыёдыкі і выдавецкай справы. Друкаванае слова становіцца важным інструментам барацьбы ідэй, сродкам грамадска-патрыятычнай прапаганды. Афіцыйныя друкаваныя органы пацясняюцца зараз мясцовай перыёдыкай ліберальнага кірунку, падпольнымі рэвалюцыйнымі выданнямі, нелегальным патрыятычным друкам.

Больш шматлікая і разнастайная цяпер кніжная прадукцыя гродзенскіх друкарняў. У 1910 г. іх налічваецца 10. І ўсё ж гэтыя дробныя (за выключэннем губернскай друкарні) прыватныя варштаты выпускалі мала кніг, да таго ж малым накладам. Зрэшты, гэта было характэрна для кнігавыдання ў Расійскай імперыі ў цэлым. Вось кароткія статыстычныя звесткі:

У 1910 г. у Расіі выйшла 29057 кніг, у Гродне 14, наклад — 19950 экз.

| | | | |
|---|---|---|---|
| У 1911 г. | 32361 | 10 | 18410 экз. |
| У 1912 г. | 34620 | 9 | 23400 экз. |
| У 1913 г. | 34006 | 11 | 11750 экз. |

Найбольшым накладам выходзілі у Гродне выданні рэлігійнага зместу (8000-13500 экз.), даведнікі, календары. Бедны наклад мела педагогіка (150-500 экз.), гісторыя літаратуры (100 экз.), спорт (60 экз.), таксама і школьныя падручнікі (500-1000 экз.).

Сярод выданняў гэтай пары вылучаюцца вельмі змястоўныя работы Я.Арлоўскага «Гістарычны нарыс Гродзенскай гімназіі» (1901), «Гродзенская даўніна» (1910), «Гродзенская губерня ў 1812 г.» (1912), кніжкі Л.Мілюціна «Гродна ў 1794, 1795, 1796 гадах» (1905) і «Самае старажытнае насельніцтва Гродзенскай губерні» (1907,1908). Цікавыя факгычным махэрыялам гістарычныя агляды, нарысы, даследаванні В.Манасеіна, В.Краснянскага, І.Краскоўскага, І.Карчынскага. Выходзяць навучальныя дапаможнікі А.Турчыновіча, М.Вальдмана, Я.Арлоўскага. Дапаможнік апошняга «Навучальнае апісанне Гродзенскай гіберні», адрасаваны гімназістам, перавыдаваўся ў 1902-1909 гады пяць разоў. Шырока выдаваліся разнастайныя агляды, справаздачы, указальнікі, пратаколы, наказы.

У пачатку XX ст. дзейнічаюць у розны час невялікія прыватныя друкарні ў Слоніме, Навагрудку, Ашмянах, Ваўкавыску, Лідзе, Смаргоні. Кожны горад выпускаў мала, па некалькі выданняў у год. Часам

і нічога не выходзіла на працягу года, хаця ў Слоніме і Лідзе лічылася па 4 друкарні. Абслугоўвалі яны мясцовыя патрэбы, выдавалі невялікім аб'ёмам (10-30 стар.) і накладам (100500 экз.) «статуты» і «справаздачы» розных дробных таварыстваў. Праўда, бывалі тут і выключэнні. Так, «Справаздача Ашмянскага ваенна-пажарнага таварыства за 1912 год» (Ашмяны 1913) змяшчае 312 стар.

З выданняў што выходзілі ў гэтых невялікіх гарадах, цікавыя даклад І. Гаптарэўскага «Пяцігоддзе таварыства распаўсюджання асветы паміж жыхарамі г. Слоніма і яго павета» (Слонім, 1912), «Сістэматычны каталог вучнёўскай бібліятэкі Слонімскай жаночай гімназіі» (Слонім, 1912), «Памятка аб Барысаглебскай царкве ў г. Навагрудку Мінскай губерні. Археалагічны нарыс» (Навагрудак, 1915), падрыхтаваная Д.Даўтялам.

Выданні з друкарань Гродзеншчыны выпускаліся цяпер амаль толькі на рускай мове, вельмі рэдка трапляюцца друкі на яўрэйскай і польскай мовах.

У гэты перыяд працягваецца выпуск афіцыйнага выдання - газеты «Гродненские губернские ведомости». З пачатку 1900 года яна выходзіць штодзённа, але, відаць, такая перыядычнасць была не пад сілу рэдакцыі, і з 1 ліпеня гэтага года «Ведомости» выпускаюцца 2 разы ў тыдзень (у асноўным на 4-8 старонках) аж да 31 ліпеня 1915 года, калі выпуск газеты быў спынены ў сувязі з падзеямі І-ай сусветнай вайны. З 1903 г. павялічваецца фармат афіцыйнай часткі газеты, а неафіцыйная частка пераўтвараецца з 3-га студзеня ў самастойны штотыднёвік, які выходзіць да 10 лістапада 1906 г. пад той жа назвай як дадатак да асноўнага выдання. Неафіцыйная частка «Ведомостей» выпускалася паменшаным фарматам на 12-16 старонках (увогуле ж аб'ём хістаўся ў межах 4-26 стар.) і давала досыць разнастайную інфармацыю. Тут публікаваліся ў рознай жанравай форме матэрыялы на гістарычныя, фальклорна-этнаграфічныя, моўныя, медыцынскія, сельскагаспадарчыя, царкоўныя тэмы. Прычым, публікацыі будаваліся, як правіла, на фактах мясцовага жыцця. Асвятлялася музычнае, тэатральнае, школьнае, гаспадарчае жыццё горада Гродна, яго санітарны побыт. Акрамя «мясцовай хронікі», давалася «агульная хроніка» — па Расіі, змяшчаліся карэспандэнцыі з губерні. Грамадска-палітычныя падзеі газета ў гэты час ужо не магла абыходзіць, але закранала іх скупа, мімаходам і толькі з афіцыйна-урадавага пункту гледжання.

Да казённых выданняў трэба аднесці і часопіс «Гродненские епархиальные ведомости» (1901-1915 г.) — орган царкоўнай губернскай адміністрацыі. Часопіс-тыднёвік адрасаваўся шырокім колам права-

слаўнага духавенства. У афіцыйным аддзеле публікаваліся пастановы царкоўнай адміністрацыі. У неафіцыйным (выходзіў 2 разы ў месяц) матэрыялы багаслоўскага, царкоўна-гістарычнага, царкоўна-педагагічнага зместу, артыкулы пра гісторыю барацьбы праваслаўя з каталіцызмам, агляды рэлігійнай літаратуры, хроніка царкоўнага жыцця, аб'явы. У часопісе можна было сустрэць этнаграфічныя артыкулы, інфармацыю пра кнігі мастацкай літаратуры. Я к дадатак да часопіса выпускаліся ў 1907-1909 г. кнігі і брашуры царкоўна-ведамаснага і рэлігійна-маралізатарскага зместу. «Гродненские епархиальные ведомости» — карысная і сёння крыніца для вывучэння гісторыі краю, архітэктуры культавых помнікаў, дзейнасці мясцовай царквы і яе ролі ў тагачасным грамадскім жыцці.

У красавіку 1912 г. пераведзена з Вільні ў Гродна «Северо-Западная жизнь» «вялікая ггалітычная, эканамічная і літаратурна-краёвая газета». Выходзіла штодзённа на 4-х старонках пабольшанага фармату. Была неафіцыйным урадавым органам і займала адкрыта манархічныя пазіцыі. Рэдакцыя імкнулася трымаць руку на пульсе вялікай палітыкі, асвятляла міжнародныя падзеі, працэсы мясцовага ўнутранага жыцця, прапаведуючы пры гэтым чарнасоценна-шавіністычную ідэалогію, нападаючы на беларускі нацыянальны рух. Грунтоўнай у газеце была «мясцовая хроніка», друкаваліся літаратурныя творы, вялікае месца займалі тут аб'явы. Праіснавала «Северо-Западная жизнь» у Гродне нядоўга, у лютым 1913 года яна пераводзіцца ў Мінск.

У 1912-1915 гадах выдаецца ў Гродне газета «Наше утро». Выходзіла штодзённа на 4-х старонках (часам на 2-6), называла сябе «прагрэсіўнай грамадскай і літаратурнай газетай». Гэта было характэрнае для той пары ліберальнае выданне, якое старалася вытрымаць грамадскі нейтралітэт, пазбягала вострых палітычных тэм і разлічвала свае публікацыі на самыя сярэднія інтарэсы і густы чытача. Вядома, ва умовах самадзяржаўнага рэжыму газеце не проста было праводзіць нават такую, памяркоўную лінію. І рэдакцыя ганарылася сціплымі здабыткамі, якіх яна змагла дасягнуць у правінцыйным горадзе. 20 мая 1915 г., роўна праз тры гады пасля выхаду першага нумара ў рэдакцыйным артыкуле з нагоды гэтага невялікага юбілею гаварылася, што газета выбрала шлях «служэнне грамадству, дабру і праўдзе» і далей: «знаходзячыся ў неспрыяльных умовах, без дастатковых кадраў прафесійных работнікаў, мы дзень за днём, ноч за ноччу працягвалі нярвовую, напружаную, упартую, а часам і непасільную працу і прымусілі гродзенцаў паверыць, што мясцовая газета,

гэта не мара, хімера, не трызненне хворай фантазіі, а факт, які адбыўся».[1]

У сувязі з гэтым фактам — трохгадовымі ўгодкамі перыёдыка — неабходна звярнуць увагу на памылку ў бібліяграфічных крыніцах, якія сцвярджаюць, што газета выходзіла да 18.VII. 1914 г.[2], хаця цытуемы выпуск «Нашего утра» мае 947 парадкавы нумар і сапраўды адлюстроўвае 3-гадовую гісторыю газеты.

Газета паказвала грамадскае жыццё горада, губерні, друкавала матэрыялы на тэмы літаратуры і мастацтва, закранала і праблемы беларускай культуры. Вельмі характэрныя публікацыі «Нашего утра» хроніка дробных мясцовых здарэнняў, рэпартажы з судовых працэсаў, прыгодніцкія творы невысокага мастацкага ўзроўню, рубрыка «Весткі і слухі», рэклама. Давалася разгорнутая інфармацыя з франтоў І-ай сусветнай вайны. Газета пісала пра цяжар вайны і чакала міру, спадзеючыся на перамогу «рускай зброі».

Сваю газету ў 1912-1913 г. мела Ліда «Лидское слово». Выходзіла раз у тыдзень з лістапада па май (ўсяго 28 нумароў). Газета арыентавалася на падзеі, здарэнні, культурныя справы горада. Друкавала творы сваіх аўтараў.

Найбольш змястоўны і арыгінальны паводле профілю з гродзенскіх перыёдыкаў пачатку XX ст. штомесячны часопіс «Педагогическое дело», які выходзіў з снежня 1911 г. Часопіс выдаваўся Гродзенскім педагагічным таварыствам, мясцовымі настаўнікамі-энтузіястамі, якія хацелі прыцягнуць грамадскую ўвагу да патрэб школы, праблем грамадзянскага і маральнага выхавання моладзі, дапамагчы настаўнікам тэарэтычна і метадычна ў працы. Пазіцыя выдання заставалася ў цэлым ліберальна-асветніцкай, але нельга не ўбачыць у многіх публікацыях і вострых крытычных ідэй, якія адпавядалі духу часу.

Рэдакцыя імкнулася стварыць шырокае кола аўтараў і ў першым нумары заклікала настаўнікаў да актыўнага супрацоўніцтва, выказваючы спадзяванне, што «Педагогическое дело» стане перыёдыкам усёй Віленскай акругі. Праўда, ужо ў сакавіцкім нумары за 1912 год са шкадаваннем зазначаецца, што педагогі спяць, «падлажыўшы цыркуляры пад галаву», не адгукаюцца і бацькі. Вядома, выпускаць такое выданне ў невялікім губернскім цэнтры, дзе інтэлектуальнае жыццё павінна было строга рэгламентавацца, было цяжка. І часопіс выпус-

---

[1] Наше утро. 1915, 20 мая, №138 (947).

[2] Алфавитный служебный каталог русских дореволюционных газет. Л. , 1958, с. III; Беляева Л., Зиновьева М., Никифоров М. Библиография периодических изданий России. 1901-1916. Т. 2. Л., 1959, с. 426; Русские дореволюционные газеты в фондах библиотеки АН СССР. 1703-1916. Алфавитный каталог. Ч.І. Л., 1984, с. 218. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Т. 4. Мн., 1987, с. 56. Памылка нарэшце выпраўленаў «Беларускай энцыклапедыі» (т. 11, 2000, с. 249), дзе зафіксавана, што газета спыніла існаванне 18.07.1915 г.

каўся нерэгулярна: у 1912 г. выйшла 5 нумароў, у 1913-м — 4, у 1914-м — 2. Задачы выдання ўскладняліся тым, што «Педагогическое дело» з самага пачатку выходзіла ў дзвюх часткахкніжках. Першая прызначалася для настаўнікаў, другая — для вучняў. І падрыхтаваць абедзве гэтыя часткі рэдакцыі часцей не ўдавалася. У 1913 г. (за выключэннем 2-га нумара) і ў 1914 г. другая частка не выходзіла.

На старонках першай часткі публікаваліся спецыяльныя артыкулы, развагі пра педагагічную працу, пра стан школьнай адукацыі ў рэгіёне, агляды педагагічнай літаратуры, рэцэнзіі на падручнікі. Не абыходзіліся ўвагаю маральная тэматыка, гісторыя школы, метадычны вопыт. Была хроніка жыцця мясцовых навучальных устаноў, рубрыка карэспандэнцый, дзе аўтары задавалі пытанні, прапаноўвалі, спрачаліся з калегамі. Змяшчаліся ў часопісе літаратурна-мастацкія, літаратурна-крытычныя матэрыялы, артыкулы па гісторыі філасофіі.

Паказальны ў многіх адносінах вялікі артыкул «Нататкі маладога педагога», які друкаваўся ў некалькіх нумарах. Аўтар, што падпісаўся псеўданімам, закранае балючыя пытанні самой сістэмы школьнай адукацыі пры царызме. Паказвае кансерватызм, коснасць, казённы дух навучання і выхавання. Гаворыць пра штучнае абмежаванне педагагічных магчымасцей настаўнікаў, пра тое, што высокае становішча бацькоў некаторых вучняў не дазваляе школе ўздзейнічаць на іх. Пра настаўнікаў аўтар, у прыватнасці, піша, што яны «болей чыноўнікі, бюракраты, чым выкладчыкі ўсе яны як нельга лепш службай, жыццём падрыхтаваны да выканання прадпісанняў».[1]

Пры гэтым з горкім смуткам заўважае: «мы рыхтуем сярэдняга, «радавога» вучня, чалавека натоўпу. Тыя ж, хто надта здольны ці няздольны..., да пары да часу толькі церпяцца намі; мы іх выкінем у свой час як матэрыял, да якога не прыстасаваны наш школьны механізм»[2]. Адказваючы на папрокі ў адрас педагогаў за тое, што яны не спраўляюцца з задачамі выхавання, малады настаўнік сцвярджае, што вінавата тут сістэма адукацыі і, больш за тое, грамадскія ўмовы жыцця.

Аўтарамі другой часткі часопіса былі ў асноўным самі вучні. Тут змяшчаліся іх творчыя работы, рэфераты, уражанні ад экскурсы, замалёўкі пазнавальнага характару з розных галін ведаў, шахматныя задачы, загадкі-жарты, памылковыя адказы, якія патрабавалася выправіць, інфармацыя пра тэхнічныя навіны. Публікаваліся беларус-

---

[1] Педагогическое дело. 1911. №1. Ч.I, с. 12
[2] Тамсама, с. 11.

кія фальклорныя творы, запісаныя на Гродзеншчыне. Досыць шырока прадстаўлялася на старонках другой часткі літаратурная творчасць вучняў (на беларускай і рускай мовах). Характэрна, што побач з вершамі камерна-альбомнага зместу сустракаюцца ў часопісе творы паэтычна глыбокія, напоўненыя моцным грамадзянскім пачуццём (вершы Юркі Снапка).

Часопіс «Педагогическое дело» быў прыкметнай з'явай у духоўным жыцці інтэлігенцыі Гродзеншчыны.

Цэлы шэраг перыёдыкаў рэгіёну былі кароткачасовымі з прычыны, часцей за ўсё, сваёй радыкальнасці. З'яўляліся яны больш у часы першай рэвалюцыі ў Расіі. Нядоўга ў 1905 г. дзейнічала штодзённая газета «Гродненские отголоски», таксама газета «Голос Гродны», якая выходзіла ў 1906 г. (два разы на тыдзень). У гэты ж час выходзіў у Гродне літаграфічны часопіс на рускай мове «Школа» (у 1906 г. выйшаў 5-ты нумар), які рыхтавала трупа вучняў мужчынскай гімназіі, што ўваходзіла ў мясцовую арганізацыю РСДРП. Часопіс меў выразную агітацыйную скіраванасць, аб чым сведчылі і палітычныя карыкатуры, што мелі і мясцовы і агульнарасійскі адрас. Рэвалюцыйная ідэя вызначала змест газеты «Солдатская воля», выйшла два яе нумары ў красавіку-маі 1906 г. (наклад 1500 экз.). Газета выдавалася Гродзенскай сацыял-дэмакратычнай ваеннай арганізацыяй і шмат ўвагі ўдзяляла справам гарнізона. На першым нумары (28.XII.1912) спыніла існаванне газета «Гродненская копейка», якая планавалася як «вячэрняя, штодзённая, непартыйная». У 1913 г. адбіты на шапірографе нелегальны літаратурны альманах «Колас беларускай нівы» (наклад 50 экз.). Падрыхтавалі яго, сабраўшы свае вершы, апавяданні, імпрэсіі, сябры Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, які дзейнічаў у 1909-1913 г. У 1913-1914 г. выйшлі два выпускі зборніка «Труды Гродненского общества ревнителей военно-санитарных знаний», куды ўвайшлі пратаколы пасяджэнняў (нумары 1-7) і навуковыя даклады сяброў таварыства за 1912 і 1913 г. Што да ваенных падзей, то яны асвятляліся (з афіцыйна-урадавых пазіцый) у газеце «Гродненское эхо», якая выходзіла ў 1914 г., і ў бюлетэні «Телеграммы Петроградского телеграфного агентства», які выпускаўся ў Навагрудку ў 1914 г. і ў Ашмянах у 1915 г.

